ГОД VI ЛІПЕНЬ - ЖНІВЕНЬ № 49
1952 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VI. № 49 Juillet-Août 1952
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1952 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981,
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:

Mr. Sacko Alexander. 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

## КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**
У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**
У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка. **Рэдакцыя.**

## З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ.

Бог захоча і сьляпы ўбача.

Бог з людзьмі робіць ігрыско, аднаго ўгару, а другога нізка.

Бог, калі кіне, дык знойдзеш і ў мякіне.

Бог ласкавей судзіць ад людзей.

Бог лесу не параўнаваў, так і людзей не раўнуе.

Бог любіць праведніка, а чорт ябедніка.

Бог ня гуляе, многа палатна мае, ды багатым торбы прыгатаўляе.

Бог ня стучон, да лучон. Бог карае злачынцаў не адразу, але пакарае напэўна.

Бог пакарае, Бог і памілуе.

Богу маліся і надзею мей.

Бог усё бачыць, усё ведае, ад Яго нічога ня ўтоіш.

Бог шчырыя сэрцы любіць.

Божа памажы, але й сам не ляжы.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ».

**Апошнім часам прыслалі:**

Анісько Д. 500 фр., Ассоўскі А. 800 фр., Асіповіч П. 500 фр., Балтрусэвіч В. 400 фр., Бартуль Ф. 1000 фр., Букато А. 1000 фр., Бутрымовіч 1000 фр., Гладкі Я. 800 фр., Грынберг С. 500 фр. Дземідзік М. 100 фр.. а. К. А. 1000 фр.. Калесьнікевіч М. 400 фр., Лабэцкі А. 250 фр., Ласоўскі М. 850 фр,, Лобэйко Ю. 90 фр., Лось Т. 750 фр., Лашук А. 750 фр,, Мак С. 500 фр., Мароз М. 1000 фр.. Маскалік К. 400 фр., Міхальчык 350 фр.. Мэдыцкая А. 1000 фр., а. Н. А. 1000 фр. Найдзюк Ч, 640 фр., Несьцераў Г. 500 фр., Пазьняк У. 500 фр., Саўка У. 400 фр., Сенкевіч В. 500 фр., Сенкевіч Г. 500 фр., Скапец Т. 500 фр., Скрынькік М. 1100 фр. Шакун У. 500 фр.. Шастак М. 1000 фр., Шкляньнік 1400 фр., Янцэвіч К. 250 фр., Яцкевіч Д. (група Аўстралія ) 2312 фр.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ № 49

# Будуючая праца

Ёсьць два роды працы чалавека: фізычная і ўмысловая, пры тым і адна і другая можа быць накіравана або для асягненьня дабра, або для спрычыненьня шкоды; першая — гэта звычайна карысная, будуючая праца, а другая — руйнацкая.

Гэткая разнародная праца ўжо існуе ад вякоў, але не заўсёды ў аднолькавых суадносінах. Няраз чалавецтва перажывала сумныя гады, калі руйнацкі ўздым пустошыў цэлыя краіны, пераменяючы квітнеючыя гарады і вёскі ў друзы і папялішчы.

Прыглядаючыся да сучаснага жыцьця, з сумам трэба сьцьвердзіць, што значнаю азнакаю нашага веку ёсьць уздым якраз руйнацкага духу. Праўда, наш век можа пахваліцца вялікім поступам у галіне тэхнікі і розных адкрыцьцяў, але прыгляньмася, якога роду тэхніка цяпер мае перавагу? — тэхніка прызначаная да руйнаваньня і забіваньня.

Такое зьявішча ня ёсьць прыпадкам. Наша пакаленьне жыве быццам у нейкай затручанай атмасфэры, якую вытварыла доўгагадовая прапаганда клясавае нянавісьці, бязбожнасьці, безмаральнага жыцьця, вольнае любові, пагоні за нячэснаю нажываю, нялюдзкае выкарыстоўваньне слабейшых адзінак і народаў — усё гэта рознымі яўнымі і патайнымі шляхамі пранікала ў сьведамасьць і падсьведамсьць нават тых, якія гэтага зусім не хацелі і закаранілася ў некаторых уплывовых кругох грамадзтва, лажучыся важкім цяжарам на ўсё грамадзтва.

Дык ня дзіва, што і наша эміграцыя мае на сабе ўплавы тае атмасфэры і яе руйнацага духу, сьведчыць аб гэтым аслабленьне салідарнасьці, завостраная рассваранасьць апазіцыйных групаў, руйнаваньне адны́мі таго, што робяць іншыя і пад.

Вышэй сьцьверджаныя факты самі ў сабе ёсьць сумным зьявішчам, але як-бы яны сумнымі ня былі на іх нельга заплюшчваць вачэй. Трэба мець адвагу глянуць ім «проста ў вочы», а яшчэ больш трэба мець жаданьне, знайсьці іхныя прычыны, каб магчы супрацьставіцца ім. У краінах вольнага сьвету ўжо даўно заўважылі гэтыя сумныя факты, прааналізавалі іх і ўзяліся за аздараўляючую дзейнасьць.

Ня будзем пералічаць, як, дзе, хто і калі, што гаварыў і думаў адносна сучаснага ліхалецьця, бо гэта заняло-б шмат мейсца і часу, але агульна штораз часьцей сучасныя вучоныя і дасьледнікі прыходзяць да высноўку, што ў аснове цяперашняга крызысу ёсьць аслабленьне рэлігійнага жыцьця. Напрыклад ведамы амэрыканскі вучоны К. Юнг на аснове доўгагадовае працы ў мэдыцынскіх установах, сьцьвердзіў, што сучаснае чалавецтва перажывае духовы крызыс, прычынаю якога ёсьць затрата веры. Шмат хто сёньня паўтарае: «Праўду казаў калісь гэнэрал Вільлінгтон: «Выхавай людзей без рэлігіі, а зробіш з іх толькі хітрых д'яблаў».

Падобныя выснаўкі вельмі не па душы бязбожнікам і асабліва бальшавіком. Апошнімі гадамі ў бальшавіцкай прэсе можна стрэнуць самую паганую лаянку на заходне-эўрапэйскіх вучоных, але праз гэтае самае, бязбожнікі даюць яшчэ адзін доказ больш, што тое, чаго яны так ня любяць ёсьць сапраўды найбольш чулае мейсца сучаснае духовае хваробы і прычынаю крызысу.

Прыступаючы да аздараўляючае працы сучасных неладоў, зусім зразумела, што ў вольным сьвеце зьвяртаюць найбольшую ўвагу на найглыбейшыя карані гэтых зьявішчаў, адпаведна да іх кіруюць сваё дзеяньне.

Першаю перадумоваю гэтае працы ёсьць актывізацыя рэлігійнага жыцьця. Рэлігія, якая мае магчымасьць і сілу ачысьціць сумленьне грэшніка ў шчырай споведзі — мае так-жа сілу ачысьціць атручаную духовую атмасфэру; нянавісьць замяніць любоўю, грэшнікаў у сьвятых, скупых у шчодрых...

На гэткае цьверджаньне неадзін заўважыць, хрысьціянства ўжо існуе блізка 2 тысячы гадоў і колькі за гэты час хрысьціянскія народы перажывалі розных руйнацкіх катастрофаў! Праўда, што перажывалі шмат, але так-жа праўда, што гэта звычайна здаралася ў часы заняпаду рэлігійнага жыцьця.

Вось-жа вялікаю будуючую і неабходнаю працаю, якую мы можам і мусім выканаць, ёсьць дзейнае рэлігійнае жыцьцё — гэта трэба разумець не як дэвацыйнае выконваньне рэлігійных абрадаў у сьвятыні, астаючыся безрэлігійным у

хатнім жыцьці і сваіх занятках, але якнайбольш актыўную дзейнасьць чалавека, у якой і найбольшыя і найменшыя ўчынкі выконваюцца ў духу навукі Хрыста. Апостал Павал кажа аб гэтым: «Ці ясьцё», ці п'яцё, ці нешта робіце, усё на славу Божую рабеце» (I Кар. X, 31).

З Божага аб'яўленьня ведама, што кожны людзкі твор прайходзіць пробу, але вытрымоўвае пробу толькі той, які мае моцны хрысьціянскі фундамант: «Кожнага дзела выявіцца... і агонь выпрабоўвае дзела кожнага чалавека, якое яно ёсьць. Калі чыё дзела, што ён будуваў, вытрывае, той дастане заплату. А чыё дзела згарыць, шкоду будзе мець» (I Кар. III, 13-15). Значыць сапраўды будуючаю і трывалаю працаю ёсьць тая, якая вытрымае пробу. I тут гісторыя дае вельмі паўчаючую лекцыю. Толькі за апошняе стагодзьдзе мінуліся нязьлічаныя тэорыі і розныя партыйныя праграмы, а Хрыстова Царква з Яе навукаю стаіць непахісна ад вякоў, як маяк на ўзбушаваным акіяне, ясна асьвятляючы шлях усім падарожным. Падобна мінуліся бясьследна нязьлічаныя калісь слаўныя дзяржаўныя мужы і памяць аб іх загінула, а скромная і ахвярная праца сьвятых асталася заўсёдным запальваючым прыкладам і натхненьнем дзеяньня для нязьлічаных вернікаў.

Шмат прыметаў гаворыць аб тым, што мы стаімо на парозе вельмі адказных падзеяў, дзеля гэтага цяпер, больш, як калі, мы ўсе агулам і кожны паасобку павінны ўсьведаміць сабе адказнасьць нашага дзеяньня і дзеля гэтага ўва усіх сваіх пачынаньнях так асабістых, як і грамадзкіх павінны мець дарадчыкам Хрыста, бо ўсё зробленае з Яго багаславенства будзе такое трывалае і непамінаючае, як Яго навука, а ўсё зробленае без Яго, а тымбольш супраць Яго, раней ці пазьней зьнікне: «Бо калі ня Госпад будуе дом, дарэмныя стараньні будаўнічых» (Пс. CXXVI, 1).

**а. Леў.**

# Прасьледаваньні хрысьціянства калісь і цяпер

У Сымбале Веры, устаноўленым на першых двох сусьветных Саборах, кажацца: «Верую... ў адзіную, сьвятую, паўсюдную і апостальскую Царкву». Тут пералічаны толькі чатыры істотныя азнакі сапраўднае Хрыстовае Царквы, але багасловы і гісторыкі ўжо даўно заўважылі, што ёсьць яшчэ іншыя азнакі, і з іх бадайшто найбольш відавочнаю ёсьць стан прасьледаваньня.

Пасылаючы апосталаў, Хрыстос казаў: «Сьцеражэцеся людзей, бо яны будуць аддаваць вас у суд і ў школах сваіх будуць біць вас» (Мат. X, 17). А ў разьвітальным слове да апосталаў яшчэ выразьней Хрыстос папярэдзіў сваіх вучняў: «Памятайце слова, якое Я сказаў вам: слуга ня большы за свайго гаспадара. Калі Мяне прасьледавалі ї вас будуць прасьледаваць: калі Маё слова захавалі і вашае слова захаваюць» (Іван XV, 20).

Ад таго часу і да нашых дзён мала было такіх шчасьлівых гадоў, калі Хрыстова Царква цешылася спакоем.

Прасьледаваньне заўсёды нясе з сабою цяжкае цярпеньне для вернікаў, таму ня ёсьць пацяшаючаю азнакаю, але відаць з успомненых слоў Хрыста, што яно, ня ёсьць чымсь прыпадковым.

Пераглядаючы гісторыю Царквы і зьвяртаючы ўвагу на прасьледаваньні, можна зжахнуцца іхняю колькасьцю і лютасьцю але з другога боку можна ўзмоцніць сваю веру, можна знайсьці магутную крыніцу суцяшэньня, што ў заўсёды ўзбураным дачасным акіяне жыцьця мы знаходзімся на тым караблі, якім нябачна кіруе Сам Хрыстос сваею бесканечнаю мудрасьцю праз пасрэдніцтва слабое людзкое рукі Свайго Намесьніка.

Напяцьце і формы прасьледаваньня часта мяняліся на працягу гісторыі. Першыя прасьледаваньні — гэта быў наступ грубае сілы на маленькую грамаду хрысьціян.

Пасьля Бэтлеемскіх дзяцей, першы хто аддаў сваё жыцьцё за Хрыста, быў першамучанік архідыякан Сьцяпан каля 40 г. Хутка пасьля яго бо ў 42 г. замучана ап. Якава Завэдзеявага. Ад гады рады мучанікаў безнастанна ўзрастаюць. Усе апосталы, за вынятка толькі аднаго Івана кончылі сваё жыцьцё мучаніцкаю сьмерцю.

Ад 64 г. пачынаюцца прасьледаваньні ў шырэйшым бо ў агульнадзяржаўным абсягу. Пачатак даў рымскі імпэратар Нэрон (54-68), звальваючы на хрысьціян адказнасьць за свой злочын. Ён у сваім хвараблівым жаданьні вялікасьці плянаваў зьнішчыць Рым і пабудаваць новы паводля свайго пляну і ахрысьціць яго сваім іменем. Але калі разьюшаная таўпа пачала шукаць помсты за спаленьне Рыму, Нэрон звальвае віну на хрысьціян. Іншыя імпэратары, наступнікі Нэрона, выступаюць выразна супраць хрысьціянства як такога, уважаючы яго за небясьпечнае адступніцтва ад дзяржаўных паганскіх рэлігіяў. Іхны загад быў вельмі просты і кароткі: хрысьціянства трэба зьнішчыць. Пад гэткім знакам у 95-96 гадох выбухае другая хваля прасьледаваньня па загаду імпэратара Даміцыяна (81-96). Кароткае было яно, але вельмі крывавае.

Пасьля некаторага перапынку імп. Траян (98-117) распачаў вельмі лютае прасьледаваньне ў 105-116 г. Аднак дзіўна, што ў меру таго, як разгараецца хваля прасьледаваньня рады хрысьціян не малеюць, але больш і больш разрастаюцца.

Падчас частых зьменаў рымскіх імпэратараў

і частых войнаў, прасьледаваньні на кароткі час быццам прыціхалі, але зусім ня спыняліся ніколі, бо супрацьхрысьціянскія дэкрэты аставаліся нязьменна важнымі. Як толькі імпэратары ўсядаліся мацней на сваім пасадзе, прасьледаваньні хрысьціян разрасталіся з новаю сілаю. Пералічаць усе прасьледаваньні, заняло-б за шмат мейсца, дзеля гэтага ўспомнім толькі аб больш крывавых.

125-137 выбухае прасьледаваньне па загаду імп. Адрыяна (117-138).

180-184 спарадычныя прасьледаваньні на акраінах Рымскае імпэрыі, як у Ліоне, Вене і інш. па загаду імп. Комода (180-192).

202-211 супрацьхрысьціянскія дэкрэты імп. Сэптымія Сэвэра (193-211) надаюць прасьледаваньню «праўную» форму.

249-251 імп. Дэкій выдае дадатковыя дэкрэты і з новаю сілаю выступае супраць хрысьціянства. Ягоныя наступнікі ўзнаўляюць наступ на хрысьціян у гадох 257 і 260.

303-311 імпэратары Дыоклiцыян (284-305) і Галерый (305-311) уславіліся найбольш лютымі і крывавымі прасьледаваньнямі, падчас якіх было вельмі шмат мучанікаў, але кончылася гэтая лютая хваля талеранцыйным эдыктам імп. Канстанціна ў 313 г. Палажэньне хрысьціянства зьмяняецца: з прасьледаванае рэлігіі яно стаецца дзяржаўнаю рэлігіяю. Афіцыяльна прасьледаваньні сьціхаюць, але гэтае зацішша вельмі зманлівае; за ім крыецца іншая небясьпека для хрысьціянства.

Варожыя і пякельныя сілы ня могуць зьмірыцца з перамогаю хрысьціянства. Відаць гэтыя сілы пераканаліся, што дагэтулешняя сыстэма прасьледаваньня не апраўдалася, вось-жа пачынаюцца пошукі новае тактыкі ў барацьбе супраць хрысьціянства. Прасьледаваньні перастаюць быць агульнымі, яны выбухаюць быццам пажары то ў адной, то ў другой дзяржаве.

У 340 г. выбухае прасьледаваньне ў Пэрсіі.

У 360-363 падчас паганскае рэакцыі ў Рымскай імпэрыі Юліян Адступнік выступае востра супраць хрысьціянства, але хутка ўмірае з клічам на вуснах: «Ты перамог мяне Галілеянін».

Наступнікі Юліяна былі хрысьціянамі, але прасьледаваньне за малымі выняткамі амаль ня сьціхала, бо рабіліся спробы замяніць Хрыстовую Царкву рознымі сэктамі. На рэлігійнай арэне робяць вялікае замяшаньне арыяне, якія зьявіліся яшчэ перад Юліянам Адступнікам. Гэта была вельмі падступная спроба ўвесьці ў хрысьціянства паганскі рацыяналізм, каб праз яго разлажыць Царкву знутра. Вельмі востра выступае арыянства ў пятым веку. Тады ўжо некаторыя народы былі амаль поўнасьцю апанаваны арыянствам. У Афрыцы валадары Вандалаў Гэнсэрык (435-477) і яго наступнік Гунэрык самі арыяне вельмі крывава прасьледавалі ўсіх інакшдумаючых хрысьціян. У Францыі і Гішпаніі арыяне, дарваўшыся да улады, прасьледавалі як маглі ўсіх сваіх праціўнікаў.

У гэтым-жа часе зьяўляецца «біч Божы» — правадыр Гунаў Аціла (434-453), які на сваім шляху нішчыў усё, але асабліва хрысьціян.

Гэты трывожны і няпэўна час быў тымбольш небясьпечны для Царквы, што ў яе лоне ўзьніклі шматлікія пагрозы разьбіцця знутра. Усьлед за ўспомненым арыянствам зьяўляюцца іншыя ерасі: нэсторыяне, эўтыхіяне, монофізіты, монотэлеты, паўлікіяне і інш. У пары з імі йдуць розныя расколы, як: донатызм, прысціліянізм, люцэфэрызм і інш. Аднак дзеецца сапраўдны цуд, не зважаючы на такое паважнае аслабленьне Царквы знутра і нападаў звонку, Яна з гэтага змаганьня выходзіць пераможна; час вялікіх ерасяў быў адначасна парою вялікіх сьвятых айцоў Царквы.

Пэрыяд вялікіх ерасяў канчаецца ў VIII в. іконаборствам, якое ў гадох 761-842 пад апекаю бізантыйскіх імпэратараў было прыняло форму вельмі лютага прасьледаваньня ўсіх інакшдумаючых.

Калі яшчэ сама лютавала іконаборства распачаў свой супрацьхрысьціянскі паход магомэтанізм. У 638 г. магомэтане заваявалі Ерузалім і Антыохію, а ўсьлед за тым і ўсю Палестыну. На пачатку VIII в. яны ўжо завалодалі Паўн. Афрыкаю. Ува ўсіх здабытых краінах вынішчалі хрысьціянства агнём і мячом.

У абароне хрысьціянства дзяржавы Зах. Эўропы арганізавалі Крыжовыя паходы, якія за выняткам другога канчаюцца няўдачамі.

У выніку Крыжовых паходаў асабліва моцна перамешваюцца рэлігійныя і дзяржаўна-палітычныя справы. Гэта ставрае магчымасьць пранікаьньня ў рады духавенства людзей без адпаведных да духовага стану цнотаў, што ў сваю чаргу адбіваецца вельмі шкодна на нутраным жыцьці Царквы і ў канцовым выніку ствapae прыдатны грунт для пратэстантызму, пачатак якому дае Мартын Лютар у 1517 г. Сьледам за ім у розных кутках Эўропы паўстаюць адразу рознаякія пратэстанцкія сэкты, выбухаюць рэлігійныя войны.

У 1534 г. ангелійскі кароль Гэнрык VIII, не атрымаўшы ад папы разводу, абвяшчае сябе галавою Англійскае Царквы і распачынае крывавае прасьледаваньне каталікоў у Англіі і Ірляндыі.

Адзін Бог ведае чаму, але ў тым-жа XVI в. выбухаюць крывавыя прасьледаваньні хрысьціян на далёкім Усходзе, ў краінах місіяў і прадаўжаюцца доўгія дзясяткі гадоў, а нават цэлыя стагодзьдзі ў форме больш або менш жорсткіх выбухаў. Для ілюстрацыі тут успомнім прынамся галаўнейшыя з іх:

У 1544 г. **індыйскі** кароль Еффіана загадаў змасакраваць усіх новаахрышчаных на абтоку Маннор. Сёньня гэты абток амаль на 100% каталіцкі. У наступных гадох выбухаюць прасьледаваньні у паадзіночных акругах ў 1549, 1583 і інш. Да таго ў XVII в. падбуралі да прасьледаваньня

каталікоў у Індыі і самі прымалі актыўны ўдзел пратэстанты-галяндцы.

У 1569 г. была зарганізаваная першая масакра хрысьціян у **Сіяме** (Таіляндзе). Ад 1600 г. там хвалі прасьледаваньня каталікоў паўтараліся вельмі часта. Больш крывавыя гады былі: 1729, 1755, 1764, 1775.

**Японія** датуе прасьледаваньне хрысьціян ад 1587 г., калі імп. Могун Гідэёті выдаў супрацьхрысьціянскі дэкрэт. Тое першае прасьледаваньне трывала аж да 1640 г. Шмат тагачасных мучанікаў было кананізавана ў 1862 г. Супрцькаталіцкія дэкрэты скасавана толькі ў 1873 г.

У **Кітаі** прасьледаваньняў было вельмі шмат. Пачынаючы ад 1616 г. яны паўтараліся ў форме выбухаў у паасобных правінцыях. Больш масавы характар мелі прасьледаваньні ў 1622 г. і 1664 г., а потым у 1840 і 1900 г., калі было змасакравана вельмі шмат сьвятароў.

У **Індакітаі** вельмі крывавым для каталікоў было XVII стаг. Прасьледаваньні там лютавалі ў гадох: 1618, 1625, 1630-45. Пасьля некаторага супакою .імп. Жа-Лёнг у 1833 г. распачаў прасьледаваньне нанава і гэтым разам яно трывала аж да 1883 г.

На **Цэйлёне** для каталікоў быў крывавым 1658 і наступныя гады.

У **Бірманіі** 1745 і наступныя гады былі на толькі крывавыя для каталіцызму, што амаль дазваньня былі зруйнавалі тамтэйшую Царкву.

У **Малябары** прасьледаваньні паўтараліся некалькімі наваротамі ў гадох 1749-59, 1780 і спыніліся толькі ў 1800 г.

У **Карэі** прасьледаваньне выбухала ў 1801 г., але шыршага размаху набрала ў 1839 г. Потым больш жорсткія наступы паўтараліся ў 1866 г. і наступных гадох. Толькі ў 1884 г. абвешчана там свабоду рэлігіі.

Тымчасам у Эўропе супрацькаталіцкая хваля, выкліканая пратэстантызмам узрастала штораз больш. У часе вялікае Француская Рэвалюцыі прасьледаваньне каталіцызму прыняло вельмі крывавыя формы. За гады 1789-1795 у **Францыі** гілётына працавала так інтэнзыўна, што ўканцы мала дзе на парахвіях асталіся духоўнікі.

У гэтым-жа часе йдзе востры наступ расейскае царыцы Кацярыны II на Каталіцкую Царкву ўсходняга абраду на **Беларусі** і на **Украіне** (Валынь). Толькі сьмерць Кацярыны ў 1796 г. спыніла на некаторы час прасьледаваньне, каб пасьля перапынку выбухнуць па загаду цара Мікалая I з новаю сілаю ў 1839 г. Зьнішчыўшы Каталіцызм усх. абраду на Беларусі царская ўлада пастанавіла зьліквідаваць яго на абшары ўсяе све імпэрыі, таму ў 1875 г. нішчыць яго так-жа на Украіне ў Холмскай дыяцэзіі.

У **Нямеччыне** канцлер Бісмарк (1851-1890) запачаткаваў сваеасаблівае прасьледаваньне каталіцызму ў форме т. зв. культуркампфу, якое хоць ня мела крывавых формаў, але вымагала ад каталікоў вялікае і ахвярнае самаабароны.

Перад першаю сусьветнаю вайною хваля рэлігійных прасьледаваньняў у Эўропе была ўсюды прыціхла ,але відаць гэтае зацішша было толькі на тое, каб пасьля выбухнуць з новаю сілаю і ў новай форме.

Пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі 1917 г. на абшары калішняе Расейскае імпэрыі выступае на гістарычную арэну ваюючае бязбожжа ў сваёй крайняй форме. Спачтку руйнацкай бязбожніцкай рабоце згодна супрацьставіліся і каталіцызм і праваслаўе, але на жаль гэтае апошняе не датрымала свае мужна занятае пазіцыі. Салідарны выступ гэтых абедзьвёх рэлігіяў для бальшавікоў быў вельмі не па душы. Тагачасны дыктатар СССР Ленін хутка ўбачыў, што такі супольны фронт Цэркваў для бальшавізму зьяўляецца павважнаю небясьпекаю, дзеля гэтага пакіраваў рэлігійную палітыку так, каб адзьдзяліць праваслаўе ад каталіцызму кітайскаю сьцяною. Ленін пры розных нагодах заяўляў, што адзінаю рэлігіяю, з якою трэба лічыцца ёсьць каталіцызм, дзеля гэтага ў межах СССР на Каталіцкую Царкву скіравана найбольш востры наступ.

Бальшавікі, ваюючы з усімі рэлігіямі, не хаваліся адносна сваіх асаблівых жарстокасьцяў супраць каталіцызму. Вось як пісаў аб гэтым «Безбожник» 3 красавіка 1923 г.: «Супраць каталіцкага клерыкалізму вядзецца больш жарстокая барацьба, чым супраць расейскае Царквы, дзеля таго, што каталіцкая арганізацыя больш магутная, чым праваслаўная і таму, што каталіцкая ідэалёгія больш прынараўляецца да агульных умоваў жыцьця... Ня дзіва, што Пій XI так цьвёрда заступаецца за Ціхана. Саюз Праваслаўнае Царквы з рыма-каталіцкім інтэрнацыяналам для стварэньня аднаго фронту супраць пралетарскае рэвалюцыі, прыпадобніваецца зьліцьцю Другога Інтэрнацыяналу з т. зв. інтэрнацыяналам 2½. Аднаму клерыкальнаму фронту мы павінны супрацьставіць аб'едналы фронт бязбожнікаў і камуністаў» (Цыт. паводля «Вера и родина» Нр. 32-33 1926 г. с. 237).

Аб падтрымцы папаю Піем XI патрыярха Ціхана цяпер мала дзе можна пачуць, а бачым са слоў бязбожнікаў, як яно было для іх грозным. Гэтую падтрымку запачаткаваў яшчэ папа Бэнэдыкт XV, ад яго імені кардынал Дэ Гаспары выслаў пратэст да Леніна дня 12-III-1919 г. супраць прасьледаваньня праваслаўнага духавенства, за гэты пратэст потым дзякаваў патрыях Ціхан праз архіб. Ропна.

Маючы фізычную сілу ў сваіх руках, бальшавікі змаглі поўнасьцю адасобніць Цэрквы і павесьці супраць іх індывідуальную барацьбу. У выніку тае «больш жорсткае» барацьбы супраць ка-

таліцызму перад другою сусьветнаю вайною на абшары СССР за выняткам аднае рыма-каталіцкае сьвятыні ў Маскве і двох сьвятароў чужынцоў не асталося ніводнае адчыненае каталіцкае сьвятыні, ані ніводнага ерарха і сьвятара на свабодзе, а ў Праваслаўную Царкву змаглі ўвесьці сваіх агентаў на ерархічныя становішчы і раскладаць Яе знутра

На дапамогу бальшавіком распачалося ў 1926 г. страшэнна крывавае прасьледаваньне Каталіцкае Царквы ў **Мэксыцы,** і трывала да 1931 г.

Ня ўсьпела высахнуць кроў мэксыканскіх мучанікаў, як у гадох 1931-33 камуністычны рэспубліканскі ўрад у **Гішпаніі** вынішчаў Каталіцызм самым лютым спосабам.

У **Нямеччыне** гітлерызм так-жа штодня завострываў свой супрацькаталіцкі курс і пагражаў «скончыць з каталіцызмам адразу пасьля выгранае вайны», але пляны Гітлера пакрыжаваліся.

Як толькі скончылася другая сусьветная вайна, ува ўсіх падбальшавіцкіх краінах распачаўся плянавы наступ на Каталіцкую Царкву. Гэтым разам бязбожніцкія сілы выказалі сапраўды д'ябальскую хітрасьць у прасьледаваньні. Калісь Хрыста змаглі расьпяць толькі дзякуючы дамаганьню жыдоўскіх архірэяў і здрадзе апостала Юды — бязбожнікі з гэтага зрабілі для сябе практычны выснавак. Для замыльваньня вачэй у акцыі прасьледаваньня, яны ў 1942 г. аднавілі Маскоўскі Патрыярхат, абсадзілі яго адказныя становішчы сваімі людзьмі і даручылі ім весьці наступ супраць каталіцызму. Пры тым была разбудавана Польская «Праваслаўная» Царква і Чэхаславацкая «Праваслаўная» Царква. Першы наступ быў скіраваны супраць Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду, якога бальшавікі відаць найбольш баяцца. Пачалася акцыя«дабравольных» пераходаў на «праваславіе». Усе украінскія каталіцкія ерархі засуджана на катаржныя працы і пачарзе іхныя епархіі заменена ў праваслаўныя: 1946-III-10 у Галіччыне, 1947-XI у Закарпацкай Украіне, афіцыяльна «аформлена» пераход на праваславіе. Падобная гісторыя паўтарылася 1948-X-20 ў Румыніі, 1950-IV-28 у Чэхаславаччыне.

У адносінах да Каталіцкае Царквы лацінскага абраду тактыка бальшавікоў ёсьць рознаякая. У меншых краінах каталіцызм стараюцца вынішчыць проста фізычнаю сілаю, як напр., у Эстоніі, Латвіі і Летуве; відаць аднак, што ў Летуве наступ грубае сілы, ня зусім быў удатным, дык апошнім часам стараюцца там стварыць «Летувіскую Нацыянальную Каталіцкую Царкву».

У Польшчы, Чэхаславаччыне, Мадзяршчыне і Румыніі супрацькаталіцкая дзейнасьць вядзецца адменнымі спосабамі. У адных краінах кладзецца большы націск на тое, каб скампраматаваць духавенства ў вачох вернікаў, у іншых больш націскаюць на тое, каб адзьдзяліць ерархію ад Рыму і адначасна падзяліць ерархаў між сабою, але ўсюды на дапамогу йдзе тэрор. Турмы і канцэнтрацыйныя лягэры запоўнены духавенствам і вернікамі. Ад 1945 да 1950 г. паводля Ватыканскае статыстыкі толькі духавенства ў гэтых краінах арыштавана 13.000 чалавек.

Югаславія так-жа ў сваіх турмах трымае некалькі сот каталіцкіх духоўных.

Кітайскія і карэйскія камуністы ў наступе на Каталіцкую Царкву йдуць сьледам за сваімі маскоўскімі настаўнікамі. Лік арыштаваных і засуджаных сьвятароў там расьце з дня на дзень.

Лік ахвяраў сучаснага прасьледу сапраўды застрашаючы, але найбольш жахлівым у гэтым наступе ёсьць сам спосаб, якім ён выконваецца. Калісьці прасьледавалі за рэлігію і за Хрыста; за гэта мучылі і адбіралі жыцьцё; цяпер-жа сапраўдны матыў прасьледаваньня старанна хаваецца. **Ад сучасных мучанікаў у першую чаргу адбіраюць аўрэоль мучаніцтва,** іх абкідаюць найгоршым балотам, найгоршым плюгаўствам, абзываюць ганебнымі назовамі: палітычных злачынцаў, шпіёнаў, крамольнікаў і пад. У мінулым годзе ў падбальшавіцкіх краінах распаўсюджана брашуру, выданую ў Маскве, з інструкцыямі барацьбы супраць каталіцызму, дзе найвыразьней кажацца: не рабіць мучанікаў — арыштаваных духоўных абвінавачваць, як злачынцаў.

Стаючы перад такімі застрашаючымі фактамі, само напрошваецца пытаньне: чаму Бог дапускае да такіх цяжкіх прасьледаваньняў сваю Царкву і сваіх вернікаў?

Нельга нам ведаць Божых плянаў, ані Божых думак, але адно ёсьць пэўным, што і ў гэтых дапустах Бог дзейнічае, як наш найлепшы нябесны Айцец. Бог ніколі не дапускае ніякага зла, з якога потым ня было-б ніякага дабра.

У прасьледаваньні што найбольш страшыць чалавека? Цярпеньні! Людзкая натура цярпеньня ня любіць. Але ці прасьледаваньні гэта толькі цярпеньне? Не! Яно нясе з сабою яшчэ іншыя рэчы. Яно нясе ня толькі страты і боль, але і карысьці.

Кроў мучанікаў падчас прасьледаваньняў заўсёды была і ёсьць найбольш ураджайным насеньнем для новых вернікаў. Прасьледаваньне хрысьціян у першых трох вякох прычынілася да разросту хрысьціянства ўва ўсіх закутках тагачаснага цывілізаванага сьвету. Адначасна з гэтым усталілася арганізацыя самое Царквы.

У змаганьні з вялікімі ерасямі выясьнілася навука Царквы.

У змаганьні з пратэстантызмам актывізуецца Каталіцкая Царква і ачышчаецца ад розных прыпадковых далучэньняў.

А ў змаганьні з сучасным бязбожжам павінна зактывізавацца практычнае ажыцьцяўленьне навукі Хрыста ў штодзенным жыцьці. Каталіцкая

Акцыя і сацыяльная навука Царквы робіць штогод усё большыя поступы.

Не зважаючы на сваю фізычную слабасьць і безбароннасьць Каталіцкая Царква з прасьледаваньняў заўсёды выходзіла пераможна, гэтым самым выяўляючы сваё Боскае паходжаньне.

Падчас прасьледаваньня выразна разьмяжоўваецца Боскі і пякельныя фронты. Тут слова «пякельны» ўжываецца ў сапраўдным ягоным значэньні. Асноўваючы сваю Царкву, Хрыстос казаў ап. Пятру: «Ты ёсьць скала і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю і вяроты пякельныя не перамогуць Яе» (Мат. XVI, 18) і вось гэтыя пякельныя вароты і ёсьць тою сілаю, якая на працягу вякоў вядзе прасьледаваньне і жадае зьнішчыць Хрыстову Царкву, але ўканцы даводзіць да таго, што Царква выходзіць з прасьледаваньняў адноўленаю і ўзмоцненаю.

Паасобныя вернікі ў часе прасьледаваньняў маюць магчымасьць выявіць сваю свабодную волю ў послуху Хрыстовой Царкве, адарвацца ад марных зямных прынадаў, ды здабыць у цярпеньні вялікія заслугі перад Богам.

Уканцы трэба яшчэ заўважыць, што ня толькі хрысьціянства, але некаторыя іншыя ідэалёгіі маюць сваіх мучанікаў і то ня толькі нейкіх прыпадковых, але зусім сьведамых, дык чым яны розьняцца ад хрысьціянскіх? Між імі вельмі вялікая розьніца. Хрысьціянскія мучанікі сваім мучаніцтвам у першую чаргу хочуць уславіць Бога — іншыя хочуць уславіць самых сябе; да хрысьціянскага мучаніцтва вядзе пакора і лагоднасьць — да іншых эгаізм; хрысьціянскія мучанікі азначаюцца багаслоўскімі цнотамі, перадусім вераю і любоў — іншыя ўпартасьцю; хрысьціяне аддаюць сваё жыцьцё не за сваю навуку, але за Божую, выконваюць не сваю волю, але волю Божую. Да вытрываньня на хрысьціянскім мучаніцкім шляху патрэбна вялікая ласка Божая, якая робіць людзей нават слабых целам — непераможных духам.

Хрыстос ёсьць заўсёды прысутны ў сваёй Царкве, дзеля гэтага нас не павінны лякаць ніякія цёмныя хмары, што сёньня зьвісаюць над Царквою; ужо ня раз грозныя навальніцы насядалі на найглыбейшыя асновы скалы, на якой збудавана Царква, але заўсёды яна аставалася непахіснай і гэткай будзе на векі.

**а. Л. Гарошка.**

# ВАТЫКАН

(Працяг 4-ы да тэмы

**«Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі»).**

У гэтым артыкуле ня маем на мэце займацца вонкавым выглядам і багацьцем помнікаў старадаўнасьці і мастацтва найбольшага ў сьвеце палацу, які ёсьць раўназначны з сёньняшняй незалежнай Ватыканскай дзяржавай. Памінём так-жа цікавую гісторыю зьвязаную з Ватыканскім узгоркам. Успомнім толькі адзін стары пераказ, які паясьняе сам назоў.

Апавядаюць, што ў далёкай мінуўшчыне, калі яшчэ Ромулюс і Рэмус гойдаліся на хвалях брудна-жоўтага Тыбру, там, дзе сёньня знаходзіцца Ватыкан, было мейсца варажбы. Туды сходзіліся цікавыя людзі, жадаючыя выдзерці багом тайны свае будучыні, варажылі з лёту птушак і інш. Варажбіт і варажбітка называюцца палаціне vates адгэтуль і пайшоў назоў Vaticanus, інакш — мейсца варажбы.

Ад часу, калі галілейскі рыбак, Пятро, прыйшоў у сталіцу цэзараў — Рым — палятынскі і капітолійскі ўзгоркі, дзе жылі цэзары, сталі зьмяншацца, а ватыканскі ўсьцяж расьці. Потым быў час, што ў даўным цэнтры вечнага гораду, на Капітолю пасьвіліся козы... І сёньня на Форум Романум валяюцца ўпаўшыя калённы, паломаныя архітравы побач з каменнымі плытамі бруку «сьвятое дарогі», а ўсё гэта кажа адведвальніку: «Так мінае слава гэтага сьвету!»

Якая вялікая супрацьлежнасьць між насьледзтвам галілейскага рыбака і насьледзтвам гордах рымскіх імпэратараў!

Таму само напрошваецца пытаньне: чаму-ж гэтак сталася? Ці купал Міхала Анёла на ватыканскім узгорку ня стрэне такая-ж доля, як і «Форум Романум»? Ці ўсё тое багацьце і краса, што сабралася вакол магілы ап. Пятра, не паўстала шляхам насільства і несправядлівасьці, як калішняя веліч і роскаш цэзараў?

Шмат хто ставіць сабе падобныя пытаньні і многія даюць на іх фальшывыя адказы.

Вага Ватыкану ў тым, што ён ёсьць аседкам бачымай галавы Каталіцкае Царквы. Таму няма сэнсу гаварыць аб Ватыкане, памінаючы папства. У сілу розных абставінаў і сучаснага ўплыву Ватыкану на Рым, якога фактычна Ватыкан зьяўляецца невялікай часткай, гэтыя два назовы часта атоесамліваюцца. Дзеля гэтага і мы тут, гаворачы аб Ватыкане, будзем мець на ўвеце ўсё тое, што разумеецца пад словам Рым, у яго дачыненьні да папства.

Сёньня Ватыкан зьяўляецца бяз сумніву адным з тых пунктаў, на які ўглядаецца ўвесь сьвет. Ня ўсе аднак глядзяць на яго аднолькава. Група каталікоў, якіх у сьвеце ёсьць каля 400 мільёнаў, бачыць у Ватыкане, у асобе папы, заступніка Хры-

ста на зямлі, найвышэйшы аўтарытэт у справах веры і этыкі. Яны перакананы, што ў той трагэдыі, якую сёньня перажывае ўсё чалавецтва, адзінай зоркай праўды на шляху да выбаўленьня ёсьць Сьвецейшы Айцец. Ягоныя словы і навучаньне маюць за сабою аўтарытэт Хрыста, Які сказаў калісь да Пятра: «Ты ёсьць скала і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю і вароты пякельныя не перамогуць Яе, і дам табе ключы валадарства нябеснага...» (Мат. XVI, 18-19).

І сапраўды Хрыстовая Царква стаіць на нязвычайным фундамэнце. Праз цэлыя стагодзьдзі білі ў Яе разбушаваныя хвалі, абрушваліся розныя навальніцы, усялякія сілы стараліся парушыць Яе асновы, але Яна стаіць непахіснай. І сёньня з розных бакоў вядуць зацятую барацьбу супраць Ватыкану розныя большыя і меншыя сілы. Найбольшаю актыўнасьцю вырозьніваюцца з іх савецкае бязбожжа і масонства. Гэты наступ нясе з сабою шмат цярпеньня, але ён-жа выяўляе, што Каталіцкая Царква стаіць вышэй за ўсе земскія ўстановы, бо пяруны б'юць у найвышэйшыя вяршыні, а тое, што паваленае на зямлю, можа ляжаць спакойна.

**Савецкае бязбожжа і Ватыкан.**

Адною з галоўных турботаў савецкага бязбожжа ёсьць не дапусьціць да ствараньня агульнарэлігійнага фронту, а перадусім да паразуменьня праваславія і каталіцызму. На ўсякія праявы гэткага паразуменьня бальшавікі рэагавалі вельмі моцна. 12 сакавіка 1919 г. папа Бэнэдыкт XV выслаў Леніну пратэст супраць прасьледаваньня праваслаўнага духавенства. Папу паведамілі аб лютых прасьледаваньнях праваслаўны архіяп. Сыльвэстар. Бальшавікі з пратэсту Сьвяцейшага Айца былі вельмі незадаволеныя і характэрна, што тагачасны камісар Чычэрын выказаў сваё незадаволеньне передусім дзеля салідарнасьці папы з праваслаўным духавенствам.

Хутка пасьля гэтага каталіцкі Магілёўскі архіб. Э. Ропп пераслаў лістоўна спачуваньне патрыярху Ціхану. На што патрыярх адказаў: «Госпад паслаў нам жарстокую пробу; у гэты час брацкая любоў асабліва дарагая і ўсе праваслаўныя былі вельмі ўсьцешаны, даведаўшыся з газэтаў, што Рымскі першасьвятар узьняў праз пасрэдніцтва кардынала Гаспары, свой голас перад Чычэрыным з прычыны прасьледаваньня Расейскае Царквы». Пасьля пад націскам бальшавікоў патрыярх Ціхан заявіў у савецкіх газэтах, што ён ня будзе мець ніякіх зносінаў з Каталіцкай Царквою і што «згоды з Ватыканам няма і быць ня можа» 1).

Такое выясьненьне Патрыярха было ўмоваю з боку бальшавікоў, за цану якое, яны даравалі Патрыярху яго «праступства».

1. Кн. Н. Д. Жевахов, Воспоминания. Т. II. Новый сад, 1928, в. 323.

Бальшавікі ад пачатку захопленьня ўлады ў свае рукі, выступіўшы востра супраць праваславія, не пакінулі ў спакою і каталікоў, наадварот, яны накінуліся на Каталіцкую Царкву горш, чым на ўсе іншыя, аб гэтым бальшавікі ня толькі прызнаюцца, але нават стараюцца апраўдаць такія паводзіны. «Безбожник» з дня 3-га красавіка 1923 г. пісаў: «Супраць каталіцкага клерыкалізму вядзецца больш жарстокае змаганьне, чымся супраць расейскае Царквы, таму, што каталіцкая арганізацыя мацнейшая, чым праваслаўная і таму, што каталіцкая ідэалёгія больш прыстасаваная да агульных умоваў жыцьця».

І сапраўды ў адносінах да каталіцтва бальшавікі былі ня толькі прасьлядоўцамі, але проста вынішчальнікамі. У савецкай Беларусі і агулам у падсавецкіх краінах на пачатку рэвалюцыі было каля 1.200 каталіцкіх сьвятыняў, усе іх бальшавікі пазачынялі, замяніўшы або ў тэатры, або ў кіна, музэі, склады, ці зусім зруйнавалі. Каталіцкіх сьвятароў нішчылі бязьлітасна ўсякімі спосабамі.

Была так-жа спроба стварыць нейкую «каталіцкую антырымскую» Царкву. Айцец Язэп Белагаловы, былы прафэсар Каталіцкае Акадэміі ў Пецярбурзе, быў забіты за тое, што не згадзіўся прыняць біскупскую хіратонію, якую сулілі яму бальшавікі з адначасным кіраўніцтвам тае Царквы.

Як правіла ўва усіх бальшавіцкіх кнігах, брашурах, газэтах і часапісах Ватыкан абкідваецца найгоршым брудам, хлусьнёю, найбольш недарэчнымі выдумкамі і нападамі.

Калі Сьвецейшы Айцец Пій XI паручыў Расею 2-II-1930 г. малітвам вернікаў усяго сьвету, дык бальшавікі гэты выступ папы назвалі крыжовым паходам супраць Расеі, які мае на мэце ўмацаваць на сьвеце фашызм і пад. Тады-ж выдавецтва «Бязбожнік» выпусьціла альбом з карыкатурамі папы.

Пасьля другое сусьветнае вайны наступ бальшавікоў на Каталіцкую Царкву анічуць ня зьменшыўся. Каталіцтва на Беларусі, Украіне, Летуве, Латвіі, ў Румыніі, Чэхіі, Славаччыне, Мадзярншчыне, Альбаніі, Югаславіі нішчыцца ўсякімі спосабамі.

Шмат хлусьні і нападаў на Ватыкан знаходзіцца на старонках «Журнала Московской Патриярхии», які нянавісьць да каталіцызму і выхвальваньне савецкае ўлады лічыць быццам найважнейшымі сваімі «догмамі». Што можа дзівіць беларуса, дык гэта тое, што ў гэтым-жа «Журнале» шмат пішацца супраць даўнейшае Уніі на Беларусі; выглядае быццам жыўцом угробленая царамі Унія нават і ў магіле трывожыць шмат каго. Чым-жа Унія так страшна для бальшавікоў? Бо з ёю стаіць аўтарытэт Ватыкану.

Адносна ўсякіх спробаў зьбліжэньня праваслa-

віяі каталіцтва бальшавікі асабліва чулыя. У 1929 г. старшыня Саюзу ваюючых бязбожнікаў Яраслаўскі (Губэльман) пісаў: «За граніцай зроблена спроба аб'яднаць каталіцкую царкву з праваслаўнай, разумеецца пад кіраўніцтвам папы... Нашым заданьнем ёсьць, каб не дапусьціць у нас да гэткага аб'яднаньня... Мы жадаем расшчапіць і разьяднаць царкоўныя арганізацыі» 2).

У часапісе «Праваслаўная Русь» 18 сьнежня 1948 г. № 24 (428) с. 14 чытаем: «Камуністычная фракцыя чэхаславацкага нацыянальнага фронту дала гэткія дырэктывы ў адносінах да Каталіцкае Царквы: Першае — Ватыкан. Змагацца ўсімі сіламі, каб аслабіць давер і пашану да Ватыкану, асабліва нападаючы ў газэтах, кампрамітуючых артыкулах і пад. Другое — адзінства духоўных. Імкнуцца разьдзяліць вышэйшае сьвятарства і ніжэйшае, убіць клін паміж біскупамі і сьвятарамі, паміж сьвятармі і вернікамі... У праграме павінна мець мейсца супрацоўніцтва з расейскай Праваслаўнай Царквою, паднесьці Прагу да мітраполіі».

Калі спытаемся, чаму камуністы гэтак заеліся на Ватыкан, дык адказ знойдзем у іхніх-жа кніжках і часапісах.

Якісьці А. Метелев пісаў у адной брашуры супраць Ватыкану: «Сярод усіх цэркваў: праваслаўнае, пратэстанцкае, жыдоўскае, мусульманскае і інш. асаблівай магутнасьцю выдзяляецца каталіцкая царква... Ніякая агэнтура ня можа толькі пашкодзіць справе вызваленьня народаў, колькі гэтаму перашкаджаюць агэнты Ватыкану»... Таму, што «ватыканская армія манахаў, сьвятароў, місіянароў і вучняў становіць вельмі культурны элемэнт». Далей Метелев з сумам піша: «Нездарма каталіцкая царква гэтак моцна яшчэ трымаецца на целе народу і адыгрывае ролю паважнае сілы. Народам некаторых краінаў давядзецца яшчэ не праз адзін дзесятак гадоў вясьці змаганьня з гэтай рэакцыйнай сілай» 3).

Успамінаны ўжо Яраслаўскі так-жа прызнаецца, што «найбольш сільнай рэлігійнай арганізацыяй ёсьць каталіцкая на чале з Рымскім Папаю» 4).

Пасьля 2-ое сусьветнае вайны матывы нападаў бальшавікоў супраць каталіцызму асталіся тыя самыя з тою хіба розьніцаю, што апошнім часам гэты наступ значна ўзмоцніўся так у самай Расеі, як і ўва ўсіх падсавецкіх рэспубліках. Адносна супрацькаталіцкае прапаганды на Беларусі крыху даведваемся з дакладу О. Артурава, прачытанага 12-VIII-1947 у Менску і выданага потым асобнаю брашураю. У ёй Артураў сьцьвярджае, што папства адыграла вялізарную ролю ў гісторыі і што перад Каталіцкаю Царквою зложылі аружжа Напалеон I і Бісмарк. Потым дадае: «Каля 40 паслоў і прадстаўнікоў розных дзяржаваў знаходзіцца цяпер пры папскім двары. Ясна, што гэтыя дыпляматы пасланыя да папы не як да ўладара дробнае дзяржавы, а як да духовае галавы, найбольш уплывовае спаміж хрысьціянскіх цэркваў» 5). Далей ідуць звычайныя напады.

Агулам варта заўважыць, што за апошнія 7 паваенных гадоў спаміж савецкіх бязбожных выданьняў, першае мейсца займаюць супрацькаталіцкія выданьні.

Як калісьці шатан ня мог ня прызнаць велічы Хрыста, гэтак сёньня і савецкія бязбожнікі. Праз заціснутыя зубы і з пенай на вуснах, але мусяць і яны часам сказаць праўду, аднак ня дзеля таго, каб яе прызнаць і ўспрыняць, але каб яшчэ з большаю злосьцю накінуцца на яе. Гэтак рабіў калісь Чычэрын, Луначарскі, Яраслаўскі, гэтак робяць цяпер Метелев, Артураў, і асабліва вызначаецца Шэйнман 6).

**Масонства і Ватыкан.**

Савецкія бязбожнікі ў змаганьні супраць Ватыкану маюць паважнага саюзьніка ў масонстве, якое ўжо мае за сабою аж чатырохвяковую гісторыю. Яны былі нават у 1925 г. утварылі супольную арганізацыю Міжнародны саюз вольнадумаючых.

Палітыка сучасных бязбожнікаў Савецкага Саюзу нічым ня розьніцца ад буржуазна-масонскае. Для прыкладу тут падамо некаторыя сказы з прамоваў і артыкулаў ведамых масонаў.

Аб мэтах масонства даведваемся з вуснаў іхных выдатных прадстаўнікоў: «Масонства павінна выхаваць чалавека, даць яму людзкую годнасьць, зрабіць чалавека разумным, кахаючым толькі людзкое, чалавека, які быў-бы сам для сябе Богам, царом і папаю» 7).

«Мы, масоны, павінны імкнуцца да поўнага разьбіцьця каталіцтва» 8).

«Усе масоны ўсяго сьвету вядуць супольнае змаганьне з супольным ворагам... Гэты вораг — папства» 9).

«За выняткам аднаго папы, масонства ня бачыць ні ў кім свайго ворага» 10).

2. «Коммунистическая революцыя». Июль 1929.
3. З. А. Метелев, Ватикан. Ленинград. 1926, с. 5 і наст.
4. В. И. Ленин, Коммунизм и религия, Москва 1933, с. 407.
5. О. А. Артуров, Ватикан и его политика, Москва 1947, с. 5.
6. М. М. Шейнман, Ватикан между двумя мировыми войнами, Москва 1948; Идеология и политика Ватикана на службе империализма, Москва 1950; Ватикан во второй мировой войне, Москва 1951. і інш.
7. **Rivista della Massoneria Ital., XIX, s. 90.**
8. **Bulletin du Grand Orient de France, Sept. 1895, s. 168.**
9. **Congres International de Genève, 1903, s. 35.**
10. **Congres International de Bruxelles, 1904, s. 43.**

«Ватыкан — вось вораг, другога няма» 11).

«Трэба ня толькі адкідаць папізм, яго трэба выкараніць і затапіць у гразь» 12).

«Сапраўдны масон той, хто адчувае вечную нязгоду і глыбокую агіду да Ватыкану. Дзень зьнішчэньня догмату папскае непамыльнасьці... будзе вялікім сьвятам» 13).

Вымоўная так-жа карэспандэнцыя старшыні італійскіх масонаў, брата Леммі, з амэрыканцам Альбэртам Пайк, ведамым кіраўніком міжнароднага масонства.

«Памагайце нам, — пісаў Леммі, — змагацца з Ватыканам; дзякуючы вашаму найвышэйшаму аўтарытэту ўсе лёжы Эўропы і Амэрыкі далучацца да нас». Пайк адказвае: «Вялікая магутнасьць Ватыкану..., але масонства здолее затрымаць гэтую сілу, падкапаць яе фундамэнты; Папства прыпісвае сабе Боскія паўнамоцтвы; яно апіраецца на выдуманным аўтарытэце таго подлага апостала (сьв. Пятра), аб каторым Павал гаварыў заўсёды з пагорджаньнем» 14).

Іншы масон цьвердзіць: «Ёсьць канечнай рэччу раскаталічыць сьвет. Мы павінны дзеіць толькі супраць Рыму» 15).

«Пакуль мы не адарвалі народы ад Рыму, мы нічога не зрабілі» 16).

Вось жменя сказаў, якія выясьняюць настроі палітыкі масонаў у адносінах да Ватыкану.

**А што мы на гэта?**

Перадусім трэба сабе ясна ўсьведаміць, што значэньне Ватыкану ня ў тым, што там месьціцца цэнтр нейкае магутнае дачаснае арганізацыі, але ў тым, што там ёсьць цэнтр земскае часткі Царквы. Каталіцкая Царква ня ёсьць людзкое будовы, Яна мае Боскі пачатак. Хрыстос сказаў да апостала Пятра: «Ты ёсьць скала і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю, і пякельныя вароты не пераможуць Яе». Калі-б Царква ня была Боскаю, а толькі людзкою, варожыя хвалі даўно змылі-б Яе з паверхні зямлі. Але як пекла бясьсільнае супраць Хрыста, таксама яно бясьсільнае супраць Хрыстовае Царквы, а Яна там, дзе ап. Пятро і дзе ягоныя намесьнікі.

Чаму камунізм і масоны гэтак злосна накідваюцца на Ватыкан? Бо там месьціца аседак Хрыстовае Царквы, Якая ня знае ўгоды са злом, фальшам і хлусьнёю. Царква змагаецца за сьвятыя правы людзкое асобы, Яна змагаецца за права работніка распараджацца сваім заработкам і ня быць у прыгоннай залежнасьці ці то ад дзяржавы, ці ад нейкага трэсту, ці ад багача-капіталіста; змагаецца за правы бацькоў узгадоўваць сваіх дзетак і аддаваць іх ў такія школы, дзе цэніцца рэлігія і шануецца мараль; змагаецца за сапраўдную свабоду чалавека.

Ня раз можна пачуць гутарку аб палітыцы Ватыкану. Ці агулам нешта такое існуе? Уласьціва дзейнасьць Ватыкану вельмі адменная ад тае дзяржаўнае дзейнасьці, якую ў штодзенным жыцьці называем палітыкаю, бо ватыканская палітыка, гэта палітыка «Ойча наш» і палітыка «Ідзеце навучайце ўсе народы». Палітыкай у значэньні такога, ці іншага кіраваньня дзяржаваю, пакулькі яно астаецца ў рамах чэснасьці, Ватыкан бязумоўна цікавіцца, але пакідае ёй вольную руку. Аднак Ватыкан будзе заўсёды супрацьдзейнічаць такой палітыцы, якая зьвязвае правы чалавека ды правы і абавязкі Царквы навучаць людзей Божага закону, наладжваць жыцьцё згодна з навукаю Хрыста.

У нацыянальных справах папства стаіць панад імі, таму яно ня ёсьць супраць якоекалечы нацыі. Калі Царква асудзіла масонаў, націзм і камунізм, дык асудзіла не якісьці народ, але фальшывыя навукі, што забіваюць духовае, а вельмі часта і дачаснае жыцьцё чалавека.

Дзеля гэтага жадаць ад Ватыкану, каб ён рабіў чыюсьці нацыянальную палітыку, ёсьць супярэчным з асноўнымі прынцыпамі каталіцызму, — яго паўсюднасьці (каталіцкі ў тлумачэньні на беларускую мову азначае паўсюдны). У гэтых адносінах ужо ня раз здараліся сапраўды дзівосныя гісторыі: калі перад першай сусьветнаю вайною нямецкая нацыянальная прэса закідала Ватыкану варожасьць да Нямеччыны і франкафільства, дык адначасна францускае прэса наадварот знаходзіла прычыны рабіць Ватыкану закіды германафільства. Дзеля гэтага і тыя з беларускіх дзеячоў, якія жадалі-б, каб Ватыкан рабіў беларускую нацыянальную палітыку і толькі, выдаюць аб сабе ня зусім пахвальнае сьведчаньне. Ёсьць і такія, якія жадалі-б, каб Ватыкан увесь свой скарб аддаў для беларускае справы і каб абрушыўся на нашых суседзяў. Тое, што некалькі беларускіх каталіцкіх сьвятароў ціха і ахвярна аддае ўвесь свой час і ўсе свае здольнасьці для раскінутых па чужыне беларусаў бяз розьніцы рэлігіі, каб толькі ім дапамагчы і маральна і нават паводля змогі матэрыяльна — гэта іх не здавальняе.

Тут ёсьць асноўнае непаразуменьне.

Каталіцкая Царква ня ёсьць супраць здаровага і чэснага нацыяналізму. Для Ватыкану аднолькава дарагія ўсе народы, бо за ўсіх Хрыстос праліў сваю кроў на крыжы. Дык, любячы баскаў, Ватыкан ня будзе кідаць каменьнем у гішпанцаў; любячы славакаў, не пакіне чэхаў і мадзяраў;

11. Journal de la Maçonnerie Franc., 1885, s. 740.
12. P. Rosen, L'ennemie sociale, s. 193.
13. Rivista della Massoneria Ital., XI, s. 146; XII, s. 248.
14. Bull. off. du Cons. Super. de Charleston, IX, s. 66; VIII, s. 174.
Босфоровъ, Масонство, Папство, Православіе, Царьгородъ 1923, с. 8-9.
15. P. Moniquet, La France en peril, s. 70.
16. Convent du Grand Orient, 1902, s. 370.

любячы беларусаў, ён ня можа ня дбаць аб расейцах і паляках. Ватыкан сваім уплывам стараецца лагодзіць усялякія шавінізмы, але каб яны, вытвараныя вякамі, зьніклі ў адзін, ці два дні, па газаду папы, гэткае рэцэпты на людзкія слабасьці Ватыкан ня мае.

У адносінах да кожнага народу Ватыкан робіць усё магчымае, каб прычыніцца да агульнага разьвіцьця і калі на гэтым шляху сустракае перашкоды, дык не баіцца заняць супраць іх адпаведную паставу. Перад 2-ю сусьветнай вайною польскі міністар замежных справаў, прасіў аб спэцыяльную аўдыенцыю ў папы Пія XI. Папа, ведаючы нядобрае прыватнае жыцьцё міністра, ня прыняў яго. Ганаровыя палякі былі зашумелі, як восы ў гнязьдзе, аднак папа астаўся пры сваім.

Той самы Пій XI, калі пабачыў руйнацкі ўплыў націзму, выдаў шырокаведамую энцыкліку «Mit brennender Sorge», дзе адважна выявіў перад усім сьветам фальш і ганьбу нямецкага расізму і шавінізму.

Палітыка Ватыкану да ўсіх народаў асноўваецца на прынцыпах навукі Хрыста. Калі-б хто з беларусаў разумеў яе інакш і ўважаў за абыякавую для нашага нацыянальнага жыцьця, ці нават варожую, дык гэтым самым сам рабіў-бы шкодную нацыянальную дзейнасьць для народу. З гэтага гледзішча можна памінуць наіўныя напады і хлусьню розных дамарослых «палітыкаў» з-пад знаку розных «Патрыётаў», але з сумам прыходзіцца сьцьвердзіць, што гістэрычныя выступы «Сілы веры», як і артыкул «Абое рабое» (гл. «Летапіс» Нр. 6) карыснымі для беларускае справы ня былі.

**а. Ч. Сіповіч.**

# ВЫМОЎНЫ ДАКУМАНТ

Польскі часапіс «Культура» Нр. 6 (56) з чэрвеня 1952 г. апублікаваў выняткі з памятнікаў доўгагадовага польскага падсакратара стану пана міністра **Яна Шэмбэка.** Між гэтымі памятнікамі ёсьць асабліва вартасны для нас адзін, які адносіцца да рэлігійнага пытаньня на абшарах заходняе Беларусі і зах. Украіны. Падаём яго ніжэй у даслоўным перакладзе бяз ніякіх камэнтароў, бо ён і сам аж занадта ясна і вымоўна сьведчыць аб адносінах калішняга польскага ўраду да каталіцызму бізантыйска-славянскага абраду на беларускіх і украінскіх землях. Адначасна зазначаем, што гэты дакумант можа быць адказам усім тым, хто сьлепа йдучы за расейскаю прапагандаю, паўтарае, як папугай, што быццам Польшча падтрымоўвала Унію.

У імя аб'ектыўнасьці лічым неабходным заўважыць, што гэта ня першы падобны выступ на старонках «Культуры. Ужо ў Н. 7-8 (45-46) 1951 на с. 204 пан Ян Токарскі пісаў аб «нянавісьці польскіх шавіністаў,выхаваных перадусім на выпараваньнях расейскае нянавісьці да ўсходніх формаў хрысьціянства». Той-жа Токарскі ў Н. 5 (55) «Культуры», у артыкуле: «Што нас дзеліць?» мае адвагу прызнацца да шматлікіх «памылак даўнае Польшчы адносна Уніі на украінскіх і беларускіх землях». Між іншым ён даслоўна кажа: «Зараз-жа пасьля Берасьця палякі, разам са сваімі біскупамі, рабілі ўсё, што маглі, каб падрэзаць жыцьцё Уніі» (стр. 122).

### РАЗМОВА ПАДСАКРАТАРА СТАНУ МІН. ЯНА ШЭМБЭКА З АПОСТАЛЬСКІМ НУНЦЫЕМ КОРТЭЗІ ДНЯ 27-Х-1938 г.

«Я дaручыў яму (Апостальскаму Нунцыю.Увага рэдакц.) нататку (разам з картаю) адносна справы падзелу Львоўскае архідыецэзіі ды ўтварэньня дыецэзіі з аседкам у Станіслававе. Пры гэтым я падаў Нунцыю цэлы рад дадатковых высьненьняў. Ён прыняў нататку бяз ніякіх спэцыяльных увагаў.

Наступна я яму заявіў, што хачу навязаць гутарку да нашае прыватнае папярэдняе размовы адносна да ўтварэньня дыецэзіі бізантыйска-славянскага абраду ў Коўлі. Ужо з мае папярэдняе рэакцыі адносна яго прапазіцыі ён мог зразумець, што я адношуся да такога праекту нэгатыўна. Нунцый адказаў кіўком галавы. Хочучы аднак спраўдзіць мае пагляды,я перадумаў гэтую справу і хачу сёньня пераказаць яму ў чыста прыватнай форме наступнае: Я дайшоў да пераканаьня, што ўтварэньне такое дыецэзіі (бізант.-слав. абраду) зусім немагчыма, ды ніхто ў Польшчы гэтага ня прыме і ніякі польскі ўрад не перайшоў-бы праз падобныя цяжкасьці. Да таго стаўленьне гэтае справы ня можа аблягчыць суаднoсінаў між урадам і Ватыканам.

Нунцый выразна вельмі незадаволены гэтым асьведчаньнем, адказаў, што падобныя аргумэнты чуў ужо з вуснаў д-ра Баркоўскага (тагачаснага старшыні адьдзелу веравызнаньняў у Міністэрстве Асьветы і Веравызнаньняў). Міма гэтага аднак мусіць сьцьвердзіць, што рэлігійныя адносіны, якія пануюць на ўсходніх крэсах трэба прызнаць за немагчымыя, дзеля чаго зьяўляецца неабходнасьць урэгуляваць сытуацыю. **На абшарах усходніх крэсаў пануе стан рэлігійнага прасьледава-**

**ньня. З боку ўлады робіцца усё для лацінскага абраду і праваславія, а бізантыйска-славянскі абрад прасьледуецца.** (Падкрэсьленьне наша. Рэдакцыя). Нунцый прывёў мне факты, якія здарыліся ў Грубешове ў капліцы манашак біз.-слав. абраду. Паводля слоў Нунцыя мяйсцовае староства застасавала адносна тых манашак нязвычайна вострыя рэпрэсіі. Так-жа сыстэму найбольшых прыдзірак тарнуецца адносна айца капуцына галяндца, які даяжджае на выклады ў Пінскую сэмінарыю. Нунцый падчыркнуў, што такіх фактаў могбы мне сказаць шмат.

Я адказаў, што з паасобных фактаў ня можна рабіць агульных выснаўкаў. На гранічных абшарах стасуюцца пэўныя спэцыяльныя распараджэньні і нельга вымагаць, каб адносна Царквы рабіліся нейкія выняткі. На гэтае Нунцый адказаў, што на абшарах, аб каторых гаворыць, маюцца дачыненьні з сыстэмаю зьнішчаньня бізант.-слав. абраду і што аб сытуацыі на тым абшары ён паінфармаваны вельмі добра. «Нунцый размаўляючы з урадам ёсьць дакладна ўдакумэнтаваны».

На маё цьверджаньне, што біз.-слав. абраду нельга ўважаць за пазытыўнае зьявішча, Нунцый зазначыў, што яго дзівуе падобнае становішча адносна абраду, які ёсьць складоваю часткаю каталіцкага сьвету.

Я заявіў, што паколькі размаўляем зусім прыватна, дык магу яму сказаць, што паводля майго чыста асабістага пагляду, Унія была няшчасьцем для Польшчы».

---

Той-жа пан Шэмбэк у тым-жа Нр. «Культуры» на стр. 65 падае, што праф. Ст. Грабскі ў размове з ім дня 27-X-1938, гаворачы аб рэлігійных справах, «выступіў вельмі гвалтоўна супраць біз.-слав. абраду».

# Людзі з чыстым сумленьнем

Ціха і працавіта жылі Даніла з Аленаю, нічым на вонках ня вырозьніваючыся ад сваіх аднавяскоўцаў, і вёска іх Міляцень нічым ня вырозьнівался ад суседніх шэрых вёсак. Разам з усімі Даніла араў поле, разам сенаваў, разам жаў, разам у лес езьдзіў. Толькі гора сваё Даніла з Аленаю цярпелі няпрыметна для іншых. Суседзі і нават родныя часта ня ведалі, што ў Данілы авечка мінулася, ці сьвіня за варону замуж вышла, або якое іншае ліха прылучылася.

Калі здаралася, што Данілу нехта моцна пакрыўдзіў, дык ён у першым гневе плянаваў помсту, але тады Алена ўмела неяк палагодзіць няпрыемнае здарэньне бяз помсты і ў данілавай хаце зноў запаноўваў супакой, які неяк добра гарманізаваў з гоманам даволі вялікае данілавае сям'і.

Бяда няраз заглядала да Данілы ў хату, але тады Алена заўсёды патрапіла знайсьці раду нейкім, хіба ёй адной ведамым спосабам. Нават у неўраджайны год данілавы дзеці не галадавалі. Праўда сама Алена тады выглядала вельмі блага, так што нават аднойчы Даніла яе дакараў, што сябе зусім не глядзіць, але яна сьмехам апраўдвалася:

— Нічога, Данілка, ня бойся, я з голаду не памру, бо-ж ведаеш сам, што гаспадыню, калі з голаду ўмірае, пад печчу хаваюць, а я хачу, каб мяне пахавалі, як усіх людзей на магільніку.

Затое Даніла з Аленаю тым вырозьніваліся ад іншых, што чула ўспрыймалі няшчасьці іншых. Прадаў раз Даніла цельную цялуху ў суседнюю вёску, але там здарылася няшчасьце, на цяленьні яна зайшлася. Дачулася аб гэтым Алена, ведама кабета мае заўсёды больш вострыя вушы, і прышоўшы дамоў, кажа Данілу:

— Чуў, нашая цялуха не пайшла рукою.

— Кепска, адказаў спакойна Даніла, — той гаспадар і так, відаць, быў бедны, а тут яму яшчэ гэткае няшчасьце прылучылася.

Рада ў раду і пастанавілі бяду падзяліць папалам.

Калі Даніла прышоў у нядзелю папалудні ў хату пацярпеўшага і палажыў яму на стол палавіну цаны цялухі, дык той ледва вачом сваім верыў, нават пробаваў апраўдвацца, але Даніла перапыніў яго:

— Вазьмі, браце, хоць палавіну цаны, бо каб ты яе ня купіў, дык-бы я меў тое-самае няшчасьце, але сталася так, што бяда спаткала цябе, дык падзелім яе папалам каб удваём было лягчэй нясьці.

І ў бедную хату на хвіліну завітала шчырая радасьць.

А іншым разам дык Алена выявіла яшчэ больш сваё спагадлівае сэрца. Была ў ваколіцы Міляцені нейкая старчыха: часам яна жабравала, часам працавала, але толку ў той прцы ня было ніякага, бо ў яе, як кажуць, не ставала клёпкі ў галаве. І вось на схіле гадоў, калі старчыха ўжо ня мела сілы глядзець за сабою і нават хадзіць, ніхто яе не хацеў прыняць нават на нач, так шмат бруду було на ёй. Толькі Алена адважылася прыняць небараку і даглядала яе аж да сьмерці.

Успрыймаў жыцьцё Даніла неяк вельмі асабліва. Гаварыў ён мала і заўсёды зраўнаважаным голасам. Мне асабліва памятны тыя дні, калі ён часам заходзіў да нас па нейкай справе, бо тады ў хату быццам з сабою прыносіў нейкі асаблівы

сьвяточны настрой. Той дзень для меня чамусьці выдаваўся асабліва прыемным. А калі мне самому здаралася зайсьці ў данілаву хату, дык я йшоў туды, як у найбольшыя госьці.

Потым я заўважыў, што амаль усе аднавяскоўцы міляценцы да Данілы адносіліся з вялікаю пашанаю.

Міналі гады і Даніла з Аленаю зусім састарэліся. Аднаго дня рана Алена не змагла ўстаць з ложка. Была на полі гарачая пара — сама канчалі сеяць. Сын не зважаючы на нічога, адразу зьбіраўся ехаць па лекара ў мястэчка, але Алена яго супакоіла:

— Едзь, сынку, лепей на поле, а вечарам відаць будзе, ці гэта па-праўдзе нейкая хвароба, ці так сабе немач.

Вечарам Алена пробавала падняцца з ложка, хоць ёй анічуць лепш ня было. На заўтра з кіем у руках і можа дваццаць раз адпачываючы, яна прыйшла ў царкву выспаведацца. А на трэці дзень вечарам, як людзі пачалі вяртацца з поля, Алена папрасіла найстарэйшага сына, каб хуценька пасклікаў усіх яе родных. За некалькі хвілін ля ложка хворае назьбіралася вялікая грамада аленінае радні.

— Ці-ж усе прыйшлі? — спыталася ціхім голасам хворая.

— Толькі Зосі няма, яна яшчэ не падхадзілася, — адказаў сын.

Зося была найстарэйшая аленіна дочка, што ўсяго некалькі месяцаў таму аўдавела.

— А-а, бедная Зоська... дык і вы йдзеце падхадзецеся, ды борзьдзенька прыходзьце да мяне, але ўсе... і ня бойцеся...

На нейкі час хата зноў апусьцела, толькі ўнукі ціха перашэптваліся між сабою, узіраючыся на бабульку.

Як толькі пачало сутанець, хата зноў напоўнілася людзьмі. Алена казала нявестцы запаліць грамнічную сьвечку і, паставіўшы яе каля ложка, азвалася ціхім перарываным голасам:

— Мае дзеткі і ўнукі, аджыла я ўжо свой век, адтаптала я ўжо сваю дарогу, а цяпер пайду ад вас.Калі я каго чым угнявіла, ці скрыўдзіла,дык прашу, даруйце мне... а калі мяне хто скрыўдзіў, дык і я дарую, хай толькі Бог міласэрны вам і мне даруе ўсё, чым я супраць Яго зграшыла... Не магу я ўжо больш і гаварыць, дык развітаемся апошні раз аж да часу, пакуль, Бог дасьць, сустрэнемся ў небе...

І пачалося разьвітаньне... Кожнаму на памятку яна яшчэ казала некалькі слоў і кожны са сьлязамі цалаваў яе рукі. З боку выглядала гэта на разьвітаньне перад вялікім падарожжам.

Даніла таго дня паважна недамагаў, седзячы на печы ён спакойна глядзеў на разьвітаньне і, каб крыху сьцішыць сьлёзы прысутных, казаў да Алены:

— Куды-ж ты выбіраешся адна без мяне, дзе-ж цябе адну прымуць? і як-жа ты мяне тут пакінеш?

— Дык чаго-ж сядзіш, жылі разам, дык і хадзем туды разам, вось зьбірайся ды пойдзем... лягчэй ісьці будзе. — Пры гэтым Алена лёгка усьміхнулася, а за ёю і ўсе прысутныя ўсьміхаліся праз сьлёзы.

Тут адчыніліся дзьверы і ў хату ўвайшла суседка. Алена глянула на яе і зусім слабым голасам зьвярнулася да яе:

— Добра, што ты прышла, але ўжо няма калі і разьвітацца... дайце мне сьвечку...

Дрыжачаю рукою Зося падала маці сьвечку. Алена слабеючаю рукою пабожна перахрысьцілася і прашаптаўшы «Аман», заплюшчыла вочы на векі. Сьвечка выпала з рукі і згасла.

Гэта была такая спакойная сьмерць, што прысутныя доўга ўглядаліся ў аблічча пакойніцы, не адважваючыся, ані рухацца, ані гаварыць, ані галасна плакаць, быццам баючыся парушыць яе вечны спакойны сон.

Некалькі месяцаў пасьля зьбіраўся ў тую-ж дарогу і Даніла, але ён казаў, што лепш адбыць свае зборы «без цэрэмоніяў». Нікому нічога ня кажучы, ён адбыў сваю споведзь і магчыма нават яго сьмерці і не заўважылі-б, бо апошнім месяцам ён недамагаў вельмі часта, але аднойчы вечарам, калі ўнукі яму не давалі супакою, дамагаючыся казак, ён іх адаслаў ад сябе:

— Мае, вы любыя, дайце-ж мне хоць спакойна памерці.

Сын прыбег пытацца, ў чым справа.

— Справа ў тым, што падай-ты мне грамніцу...

Хатнія раптам затрывожыліся, кінуліся да ложка, але праз некалькі хвілінаў Даніла спакойна заснуў на векі.

А на хаўтурах суседзі аднагодна паўтаралі:

— Праўду кажуць старыя людзі: Якое жыцьцё, такая і сьмерць. З чыстым сумленьнем абое яны нават і перад сьмерцю маглі ўсьміхацца і спакойна пайшлі перад аблічча Усявышняга.

**А. Жменя.**

# ДРУГІ ТЫДЗЕНЬ СТУДЫЯЎ Б.А.К.А. „РУНЬ“

У нядзелю 20-га ліпеня ў доме айцоў Марыянаў пры Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане, распачаўся Тыдзень Студыяў Беларускага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь» на тэму «Хрыстос — Дарога, Праўда ў Жыцьцё». Працы Тыдня трывалі да 27 ліпеня з удзелам сяброў з Англіі, Бэльгіі, Гішпаніі і Францыі.

Распачаўся Тыдзень урачыстаю Службаю Бо-



**Група ўдзельнікаў другога Тыдня Студыяў.**

жаю, адпраўленаю а. Л. Гарошкам у саслужэньні а. Ч. Сіповіча. Пасьля абеду старшыня «Руні» Ал. Надсон афіцыяльна адкрыў Тыдзень і прывітаў усіх прысутных, пасьля чаго ў капліцы памаліўшыся да Сьв. Духа адбылося багаслаўленьне сьв. Дарамі.

У панядзелак распачаўся нармальны працоўны дзень Тыдня паводля ўстаноўленага парадку, на які складаліся: супольныя ранешнія малітвы, потым Служба Божая або ўсходняга, або лацінскага абраду, чаргуючыся штодня. Наступна пасьля сьнеданьня ад гадз. 9,30 распачыналіся даклады і дыскусіі, перарываныя абедам. Папалудні або прадаўжаліся даклады, або ладзіліся іншыя заняцьці. Працоўны дзень канчаўся супольнымі вячэрнімі малітвамі а гадз. 9.

Важнае мейсца ў праграме Тыдня займала малітва; гэта зусім зразумела, бо-ж малітва зьяўляецца інтымнай размовай з Богам і ў гэтай размове чалавек найлепш пазнае Бога, а ўмеру пазнаньня расьце любоў чалавека да Стварыцеля. Цэнтральным пунктам кожнага дня была сьв. Літургія, у часе якое большасьць удзельнікаў прыступала да сьв. Прычасьця. А ў пятніцу 25 ліпеня былі праведзены цэладзенныя рэкалекцыі. Незалежна ад гэтага кожны ўдзельнік меў нагоду да прыватнае малітвы — капліца а.а. Марыянаў была адчынена ўвесь дзень.

Пасьля малітваў найважнейшым пунктам праграмы Тыдня былі самыя студыі, на якія злажыліся наступныя даклады: а. Л. Гарошка — «Мэсіяністычныя прароцтвы Старога Запавету і іх выпаўненьне ў асобе Хрыста», і «Сьв. Тайны — сродкі да збаўленьня, устаноўленыя Хрыстом»; а. Ч. Сіповіч — «Жыцьцё Хрыста — храналягічны нарыс» і «Хрыстос — Бог і чалавек»; а. Ф. Чарняўскі — Сьв. Эўхарыстыя»; Ал. Надсон — «Нагорнае казаньне»; Я. Сурвіла — «Сацыяльнае пытаньне ў сьвятле навукі Хрыста»; М. Наумовіч — «Хрыстос у мастацтве»; В. Рамук — «Актуальнасьць Хрыста і Хрыстовае навукі»; Я. Садоўскі — «Цярпеньне ў сьвятле навукі і прыкладу Хрыста»; Д. Анісько — «Найважнейшыя прыказаньні — любоў Бога і бліжняга»; Ч. Кукель — «Хрыстос і Яго Царква». Акрамя гэтага а. Сіповіч і а. Гарошка зрабілі супольна даклад на тэму: «Беларускія сьвятыя», а а. Чарняўскі меў 3 кароткія казаньні аб Хрысьце. Асобна трэба ўспомніць аб вельмі глыбокім дакладзе гасьця а. Крэўзы на тэму: «Хрыстос між Захадам і Усходам». Думкі, закранутыя ў дакладах далей распрацоўваліся і папаўняліся ў рачовых дыскусіях. Маленькая бібліятэчка ў сьвятліцы служыла патрэбам тых, якія прыватна хацелі папоўніць сваю веду на тэмы дакладаў.

Належнае мейсца было так-жа адведзена адпачынку, бо-ж большасьць удзельнікаў складалі студэнты, якія прыехалі сюды беспасрэдна пасьля экзамінаў. Дом а.а. Марыянаў з прасторным садам, зеленьню, блізінёю поля быў для гэтага ідэальным мейсцам. З гэтых выгодаў карысталі і ўдзельніцы жанчыны, якія жылі ў недалёкім доме Ал. Мэдыцкай. На дадатак і пагода спрыяла праз увесь Тыдзень. Найбольш папулярнай формай адпачынку была адбіванка, ладзіліся прагулкі ў поле, а заядлыя плывакі мелі недалёка плавальны басэйн, а хто ня меў спартовых амбіцыяў, мог прыемна правесьці час у сьвятліцы між кніжкаў і часапісаў.

У сераду 23 ліпеня была зарганізавана экскурсія для агляданьня Лёндану. Адведаўшы старажытны Лёндански замак, мейсца жыхарства першых англійскіх каралёў, заменены потым у турму, і аглянуўшы слаўныя будынкі і памятнікі цэнтру Лёндану, далей, аглядалі Лёндан «зьверху», езьдзячы на павярховых аўтабусах. У нядзелю 27-VII частка ўдзельнікаў паехала ў Беларускі Дом, дзе мелі нагоду пазнаёміцца з Лёнданскімі беларусамі і быць прысутнымі на гадавой сходцы Лёнданскага аддзьзелу ЗБВБ. Другая частка паехала на спартовы пляц Уэмблы, дзе ў прысутнасьці кардынала Гріффіна, трох біскупаў і звыш 80.000 вернікаў адбываўся мітынг крыцыяты сямейнае малітвы.

Скончыўшы сваю працу студыяў, у панядзелак удзельнікі адведалі Оксфорд — старажытны англійскі унівэрсытэцкі горад з ягонымі слаўтымі каледжамі.

Для агульнае плённае працы Тыдня і да жыцёцярадаснага настрою у вялікай меры прычынілася гаспадыня Аўсей, якая даглядала ўсіх, як добрая маці, заслугоўваючы на агульную ўдзячнасьць.

У часе Тыдня была выслана тэлеграма Сьвяцейшаму Айцу Пію XII наступнага зьместу: «Сябры Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь», сабраўшыся на Тыдзень Студыяў і агульны Зьезд ў Лёндане, шлюць Вашай Сьвятасьці свае прывітаньні і запэўненьні сыноўскае

ідданасьці і просяць Вашага бацькаўскага багаславенства». У адказ на гэта атрымана тэлеграма, падпісаная сакратаром Сьвяцейшага Айца Монс. Монтіні:

**«Сьвяцейшы Айцец цёпла ўспрыймае словы сыноўскае адданасьці Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь» з нагоды Тыдня Студыяў і агульнага зьезду і ад усяго сэрца перасылае ўправе і сябром Аб'еднаньня сваё бацькаўскае і апостальскае багаславенства».**

Тыдзень Студыяў «Руні» ў Лёндане — дугі з чаргі (першы адбыўся ў мінулым годзе ў Шэвэтонь у Бэльгіі) прайшоў з поўным посьпехам, узбагаціў удзельнікаў духова і ўмыслова, пакідаючы ўва усіх незацёртае ўражэньне.

Перад разьездам ўсе ўдзельнікі Тыдня выказалі гарачае жаданьне спаткацца зноў у наступным годзе на чарговым Тыдні Студыяў. БАКА «Рунь» пляяуе ў тым наступным Тыдні заняцца тэмаю: «Хрысьціянскі элемэнт у беларускай культуры». Дакладная дата і мейсца Тыдня будуць азначаны пазьней. **А. Надсон.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## УНАРМАВАНЬНЕ ДУШПАСТЫРСТВА ДЛЯ ЭМІГРАЦЫІ.

Сёлета на пачатку жніўня Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў канстытуцыйны ліст « Exsul Familia» у якім падаюцца нормы арганізацыі душпастырства ўцекачоў і эміграцыі. На пачатку падаецца карoткі агляд гісторыі такога душпастырства ў мінулым, бо ведама, што ўжо Лятэранскі Сабор 1215 г. устанаўляў, што бiскупы забавязаны падбаць, каб у іхных дыяцэзіях вернікі адменнае мовы і абрадаў мелі свайго асобнага душпастыра .У другой часьці ліста падаюцца нормы, сабраныя ў 6 разьдзелаў, якія: дакладна азначаюць кампэтэнцыі рымскіх Кангрэгацыяў адносна душпастырства эмігрантаў, прадбачваюць устанаўленьне ў Кангрэгацыях найвышэйшае рады і міжнароднага сакратарыяту апостальства, азначаюць абавязкі эміграцыйных місіянароў, і ўканцы падаюць падрабязныя нормы апекі, для эміграцыі.

## ЛІСТ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ПІЯ XII ДА РАСЕЙСКАГА НАРОДУ.

У дзень святых славянскіх апосталаў Кірыла і Мяфода 7-VII папа Пій XII зьвярнуўся да расейскага народу з лістом, « Sacro vergente anno », затытулаваным: «да ўсіх народаў Расеі», у якім, пераказаўшы коратка важнейшыя мамэнты ў адносінах Апостальскага Пасаду да Расеі, затрымоўваецца даўжэй над зьявішчам пабожнае пашаны расейскага народу да Прачыстае Дзевы Марыі і заахвочвае да шчырае малітвы да Яе асабліва цяпер,каб вымаліць хутчэйшае зьнікненьне ў Расеі бязбожжа і прысьпешаньня трыумфу хрысьціянскае справядлівасьці і сапраўднае свабоды. Уканцы Сьвяцейшы Айцец пасьвячае расейскі народ непарочнаму Сэрцу Дзевы Марыі.

## ПАСТАНОВА ў СПРАВЕ РЭЛІГІЙНАГА МАСТАЦТВА.

Кангрэгацыя Сьвятога Ураду дня 20 ліпеня выдала інструкцыю для ўсіх мяйсцовых ардынарыяў датычна рэлігійнага мастацтва. Гэтая інструкцыя забавязвае усіх адказных за рэлігійнае мастацтва, уважна сачыць за тым, каб так самыя сьвятыні, як рэлігійныя абразы і статуі служылі ўздыму пабожнасьці, былі мейсцамі малітвы і ўслаўленьня Бога, каб там ня было нічога такога, што магло-б прафанаваць сьвятое мейсца, або глуміцца над рэлігійнымі пачуваньнямі.

## КАНГРЭГАЦЫЯ СЬВ. УРАДУ І МІСТЫЧНЫЯ ЗЬЯВЫ.

У Італіі ад даўна шырока разышлася слава аб а. Пію капуцыне, які ад 1918 г. мае стыгмы (раны) на руках, нагах і правым баку. Маленькі капуцынскі манастыр Ласкавае Дзевы Марыі ў вёсцы сьв. Івана Ротондо каля Фожжі, дзе жыве а. Пій, стаўся мейсцам паломніцтва сусьветнае славы, а самая асоба а. Пія сталася прадметам шматлікіх кніжак містычнага зьместу. Некаторыя з аўтараў тых кніжак, памінаючы духоўную цэнзуру, загналіся так далёка ў сваім фантазёрстве, што пачалі ў містычных зьявах шукаць сэнсацыяў. Дзеля гэтага Кангрэгацыя Сьв. Ураду іхныя творы ўмясьціла ў сьпісак забароненых кнігаў.

## КРУЦЫЯТА СЯМЕЙНАЯ МАЛІТВЫ.

З ініцыятывы шырокаведамага ў лёнданскіх рэлігійных кругох а. Патрыка Пэйтона дня 27 ліпеня на найбольшым Лёнданскім стадыёне Уэмблы адбылася нязвычайная маніфэстацыя, прысьвечаная сямейнай малітве. Як стадыён стадыёнам дык яшчэ ніколі на ім чагосьці падобнага ня дзеелася. Усе 15 тайніцаў ружанца-чотак былі прадстаўлены на арэне жыва і з вялікам мастацтвам. Самая сыстэма паказу напаміналя пасыйныя прадстаўленьні ў Обэраммэргаў і рабіла на прысутных нявымоўна глыбокае ўражэньне, так што некаторыя тайніцы, як бічаваньне і ўкрыжаваньне Хрыста, нават найболып паўстрымаяых ангельцаў бралі за жывое. Акцёрамі былі сябры розных лёнданскіх драматычных згуртаваньняў і вучні каталіцкіх каледжаў. Пасьля прадстаўленьня

прамаўлялі ведамыя англійскія асабістасьці, між імі Яго Эм. кардынал Грыффін і а. Пэйтон. Маніфэстаныя абдылася пад клічом: «Сям'я, якая разам моліцца — астаецца разам». Прысутных было больш 80.000 глядачоў.

### 39-ы ТЫДЗЕНЬ САЦЫЯЛЬНЫХ СТУДЫЯЎ У ФРАНЦЫІ.

У Діжоне між 22-27 ліпеня адбыўся 39-ы каталіцкі Тыдзень Сацыяльных студыяў, прысьвечаны пякучай праблеме «Багацьце і беднота». Фаховыя даклады асьветлівалі ўсебакова закранутую тэму з эканамічнага і рэлігійнага гледзішча і знашлі шырокае рэха на старонках францускае прэсы. Сьвяцейшы Айцец Пій XII перад пачаткам Тыдня прыслаў ліст старшыні Сацыяльных Тыдняў у Францыі кан. Карлу Флёры, у якім коратка падаў галоўныя вытычныя Каталіцкае Царквы адносна пастаўленае тэмы.

### НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ЛЕТУВЕ.

Сёлета ў сакавіку і красавіку Міністэрства Нутраных Спраў (калішняе НКВД) аж чатыры разы выклікала да сябе прадстаўнікоў летувіскага каталіцкага духавенства: адзінага летувіскага 77-гадовага біскупа, які яшчэ астаўся на волі Я. Э. Казімера Палтаракіса, кан. Я. Станкевічыюса і а. П. Мацэліса. Ім было загадана падтрымоўваць нядаўна створаны камуністычны Летувіскі Камітэт і абвешчана ўтварэньне «Летувіскае Нацыянальнае Каталіцкае Царквы»

Гутарку з духавенствам вялі сакратары камуністычнае партыі: А. Снецкус, Б. Пузініс і Смірнов. Духоўныя былі «запрошаны» адведаць Маскву і ўдзельнічаць у Другой канфэрэнцыі Цэркваў і рэлігіяў, што адбывалася ў Маскве 1-3 траўня. Уласьцівая мэта канфэрэнцыі была выкарыстаць духавенства для прапаганды аб савецкай «мірнай акцыі», асуджэньня азбраеньня Нямеччыны і Японіі, а так-жа для большых нападаў на Ватыкан.

### «ПАПЛАТНАЯ» СЛУЖБА.

Швайцарскі штодзеньнік «Сант-Гальлер Тагблят» у мінулым месяцы падаў цікавыя інфармацыі аб рэлігійных адносінах у Савецкім Саюзе. На аснове верагодных жаролаў там падаецца, што Сталін прызнаў існаваньне Праваслаўнае Царквы і дзволіў Ёй некаторую дзейнасьць толькі пад абсалютнаю ўмоваю лаяльнасьці да савецкае ўлады, больш таго пад гэтаю ўмоваю прызнаў Яе, як адну з важных апораў камуністычнае сыстэмы апанаваньня масаў і прызнаў паважную матэрыяльную помач.

Сёньня ўмовы жыцьця духавенства і асабліва ерархаў, верных савецкай ўладзе надзвычайна раскошныя, нават лепшыя, чым высокіх савецкіх урадоўцаў. Маскоўскі патрыярх атрымоўвае месячна 50.000 рб., мітрапаліт — 30.000 рб., архіяпіскап — 20.000 рб., япіскап — 12.000 рб., ерарх на пакоі — 10.000 рб. Для параўнаньня варта зацеміць, што фабрычны кваліфікаваны работнік у Савецкім Саюзе звычайна атрымоўвае менш 1.000 рб.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### Рэлігійнае апусташэньне.

У «Журнале Маск. Патр.» Нр. 4 з г.г. надрукаваная кароценькая карэспандэнцыя аб асьвячаньні адрамантаванае царквы ў Клімавічах, якое даканаў менскі архіяп. Пітірым, але пры гэтым зазначана, што ён служыў «з духавенствам благачыніі і з прыехаўшым з ўладыкаю духавенствам». Да якое благачыніі належаць Клімавічы ня кажацца, але відаць, што ў гэтай благачыніі так мала духавенства, што савецкі ерарх для свае службы мусіць прывозіць з сабою духавенства з Менску. Уканцы кажацца, што з Клімавіч архіяпіскап на другі дзень адразу вярнуўся ў Менск — відаць, што па дарозе ня было цэркваў, дык і ня было дзе затрымоўвацца, каб адведаць сваіх вернікаў, хоць у карэспандэнцыі кажацца, што ў Клімавічах (а тым самым і ў ваколіцы) ня бачылі; япіскапа ўжо 30 гадоў.

### Перамяшчэньне савецкіх ерархаў.

Сёлета на пачатку году віленскі «праваслаўны» архіяп. Фотій (Топіро) перанесены ў Львоў, а пустуючы віленскі пасад даручана рыжскаму архіяп. Філарэту. Такія спалучэньні пустуючых пасадаў у Савецкім Саюзе апошнімі гадамі здараюцца даволі часта, бо пачынаючы ад 1948 г. лік савецкіх ерархаў паважна йдзе на ўбытак; з агульнага ліку 81 чалавек у 1948 г. сёлета асталося толькі 65. У межах БССР ёсьць усяго 3.

### АНГЛІЯ.

### Агульны Зьезд БАКА «Рунь».

Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь», карыстаючы з другога Тыдня Студыяў, адбыло 24 ліпеня ў доме айцоў Марыянаў у Лёндане свой агульны Зьезд. На Зьезьдзе прысутнічалі сябры з Англіі, Бэльгіі, Гішпаніі і Францыі.

Старшынёю Зьезду выбрана а. Л. Гарошка, сакратаром Г. Юзэфовіча. Уступаючая галоўная ўправа «Руні» і яе духоўны асыстэнт падалі вычэрпваючую справаздачу аб сваёй дзейнасьці за мінулы год, наступна адбыліся справаздачы з па-



**Новая ўправа Б.А.К.А. «Рунь».**

асобных краінаў. Са справаздачаў выявілася, што за мінулы год «Рунь» зрабіла значны крок уперод. Да найвялікшых асягненьняў трэба залічыць прыняцьце БАКА «Рунь» у Pax Romana, навязаньне цясьнейшае лучнасьці і іншанацыянальнымі каталіцкімі арганізацыямі, значнае павялічэньне ліку сяброў і ўпарадкаваньне працы адзьдзелаў у эўропэйскіх краінах. Некаторыя адзьдзелы на працягу мінулага году вялі сыстэматычную дзейнасьць і асягнулі добрыя вынікі. Напрыклад Лёнданскі адзьдзел ладзіў рэгулярныя зборкі ў кожную першую нядзелю месяца з багаслужэньнем, дакладам і супольным абедам. Некаторыя адзьдзелы арганізавалі вялікапосныя рэкалекцыі для сваіх сяброў і агулам была зьвернена большая ўвага на ўздым рэлігійнага і інтэлектуальнага жыцьця. Вялікім асягненьнем была так-жа арганізацыя другога Тыдня Студыяў у Лёндане. Да недахопаў трэба залічыць той факт, што ўправа замала зьвярнула ўвагі на арганізацыю адзьдзелаў «Руні» ў па-заэўропэйскіх краінах.

Выслухаўшы і прадыскутаваўшы справаздачы, Зьезд намеціў плян працы на наступны год, даручаючы зарганізаваць у 1953 г. трэці Тыдзень Студыяў на тэму: «Хрысьціянскі элемэнт ў беларускай культуры».

Новая ўправа «Руні» выбрана ў такім складзе: —старшыня — Ал. Надсон (Лёндан), заступнік старшыні — В. Рамук (Лювэн), сакратар — Д. Анісько (Лёндан), сябры ўправы — Ф. Бартуль (Лёндан). Духоўным асыстэнтам і далей астаўся а. д-р Ч. Сіповіч.

## АЎСТРРАЛІЯ.

### З грамадзкага і рэлігійнага жыцьця.

Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі, выкарыстоўваючы доўгія вечары, наладзіла **цыкль лекцыяў** з галіны агульнаасьветнае і беларусаведы. Першую лекцыю прачытаў дня 18-VII студэнт Мэльбурнскага унівэрсытэту М. Андрэйчык аб атамнай энэргіі.

**УСыднью** Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква сёлета ў ліпені атрымала свой чартар. Багаслужэньні адбываюцца ў ёй штонядзелі.

## БЭЛЬГІЯ.

### Музычны вечар.

Ведамы беларускі кампазітар А. Карповіч адведаў у Лювэне свайго сябру кампазітара М. Равенскага і з гэтае нагоды яны абодва дня 17 траўня наладзілі ў Лювэне музычны вечар, на якім прадэманстравалі перад слухачамі свае найнавейшыя кампазіцыі. Вечар зрабў глыбокае ўражэньне на ўсіх прысутных, так беларусаў, як і бэльгійцаў.

### Грамафонныя пліткі.

Уканцы жніўня ўжо паявяцца ў прадажы грамафонныя пліткі беларускага студэнцкага хору ў Лювэне пад кіраўніцтвам камп. М. Равенскага. Камплет плітак мае 5 рэлігійных і 11 нацыянальных песень у апрацоўцы М. Равенскага.

## ГІШПАНІЯ.

### Даклад аб Беларусі.

Студэнт мадрыдзкага унівэрсытэту Я. Сурвіла на запросіны Сындыкату Гішпанскіх Студэнтаў Біскайскае правінцыі адведаў 19-VII кіравецтва гэтае арганізацыі ў Більбао і паінфармаваў іх аб жыцьці беларускае моладзі пад бальшавіцкай акупацыяй і аб стане нашага студэнцтва на эміграцыі. Наступнага дня ў нядзелю Я. Сурвіла адведаў цэнтр адпачынку гішпанскае студэнцкае жаночае моладзі ў Гальярта каля Більбао і там прачытаў для студэнтак і прадстаўнікоў мяйсцовае прэсы рэфэрат на тэму: «Гішпанія і Беларусь — дзьве мучаніцкія краіны». Даклад выклікаў вялікае зацікаўленьне, аб гэтым сьведчылі шматлікія запытаньні пра дадатковыя інфармацыі аб Беларусі. Аб адведзінах і дакладзе былі зьмешчаны абшырныя і прыхільныя рэпартажы ў трох мяйсцовых гішпанскіх газэтах.

## З.Ш.А.

### З беларускага жыцьця.

У Нью Брунсьвіку дня 22-VII для азначэньня **10-ых угодкаў сьмерці Я. Купалы** ў праваслаўнай беларускай царкве адслужана Служба Божая, а папалудні была наладжана адпаведная для гэтае нагоды акадэмія.

У Нью Ёрку дня 29-VII Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ладзіў **акадэмію прысьвечаную Я. Купале.** Абшырны рэфэрат аб жыцьці і

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

творчасьці Я. Купалы прачытаў праф. Я. Ліманоўскі, пасьля чаго адбылася, прыгожа выкананая, мастацкая частка са пьпевам і дэклямацыямі вершаў паэта.

Дня 6-га чэрвеня памёр у Чыкаго былшы прэм'ер першага Народнага Сакратарыяту Беларускае Народнае Рэспублікі **Язэп Варонка.**

Ад мінулага году **Кліўленд** стаўся найбольш ажыўленым цэнтрам беларускага арганізацыйнага жыцьця ў З.Ш.А. аб гэтым вымоўна сьведчыць штомесячны Бюлетэнь Б. Зл. К. К. Там амаль штонядзелі адбываюцца розныя імпрэзы: 18-V быў азначаны Дзень Маткі, 25-V — акадэмія з нагоды 35-ых угодкаў сьмерці М. Багдановіча, 29-V — акадэмія для азначэньня 10-ых угодкаў сьмерці Я. Купалы.

Сёлета між 4 і 6 чэрвеня з пачыну Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў З.Ш.А. адбылося **каля вадападу Ніягара спатканьне беларусаў** са З. Ш.А. з канадыйскімі беларусамі. Гэтая добра зарганізаваная імпрэза ўва ўсіх пакінула **премны** ўспамін і жаданьне падобнае сустрэчы налета.

**На выдавецкай ніве.**

Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў З. Ш. А. выдаў свой першы нумар **«Запісаў»,** якія паводля зьместу і формы ёсьць першым паважным беларускім навуковым часапісам на эміграцыі.

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў З.Ш.А. пачало выдаваць ад чэрвеня г.г. ратататарным спосабам свой часапіс **«Віці».** Затое ад леташняга году перасталі выходзіць беларускія скаўцкія часапісы.

Беларуская Бібліяграфічная Служба, карыстаючы з дапамогі Гарвардзкага унівэрсытэту выдала **«Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-50 г.г.»** уложаны М. Паньковым.

**КАНАДА**

**Агульны Зьезд З.Б.К.**

Сёлетні, чацьвёрты з чаргі, Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, які адбыўся ў днёх 17-18 траўня, выклікаў большае, як звычайна зацікаўленьне сваіх сяброў, бо ад некатарага часу беларуская калёнія ў Канадзе перастала быць монолітам. Гэтым тлумачыцца, што праца Зьезду праходзіла ў напружанай атмосфэры, а справаздачы галоўнае ўправы і наглядная рады выклікалі гарачыя дыскусіі. У склад новае галоўнае ўправы выбрана: старшыня — д-р Я. Скурат, сябры ўправы — Я. Ананіч, М. Ганько, М. Рачыцкі, Барановіч, Р. Жукоўская і А. Арцюх. Уканцы намечана даволі вялікі плян працы на бягучы год, які прадбачыць: легалізацыю З.Б.К., зьбіраньне сродкаў на куплю дому і царквы, арганізацыю хору, стараньне аб беларускіх аўдыцыях у радыё і інш.

**НЯМЕЧЧЫНА.**

**Выдавецкія навіны.**

Новазаснаваная арганізацыя Беларускі Антыбальшавіцкі Фронт пачала ад ліпеня выдаваць свой часапіс «Змаганьне» ў абыйме 28 стр. друку. Зьмест мае выключна палітычны характар.

Перш яшчэ пачалі выходзіць: гумарыстычны часапіс «Шарсьцень» і асобны дадатак да «Бацькаўшчыны» дзіцячы часапіс «Каласкі». Адбіткаю з «Бацькаўшчыны» магчыма ўканцы верасьня выйдзе паэма Я. Коласа «Новая зямля».

Новастворaная арганізацыя Беларускі Вызвольны Рух пачала выдаваць сваю невялікую газэту «Незалежная Беларусь» і на ратататары «Інфармацыйны бюлетэнь Гал. Шт. Б.В.Р.».

**ФРАНЦЫЯ.**

**Ля Крэзо азначыла 5-ыя ўгодкі свае філіі АБРФ.**

Адзьдзел Ля Крэзо Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі азначыў сёлета 17-VIII пяцігодзьдзе свайго існаваньня. З гэтае нагоды рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі адправіў у царкве сьв. Карла ў Ля Крэзо Службу Божую і сказаў прынагаднае казаньне. А папалудні таго-ж дня сабраліся ўсе беларусы-крэзоцяне за супольным сталом, каб азначыць свой скромны юбілей паводля беларускага звычаю адпаведнаю бяседаю. У шчырай сяброўскай атмасфэры, успамінаючы першыя крокі арганізацыйнага жыцьця і пераплятаючы бяседу сьпевамі беларускіх народных песень і ўдалымі дэклямацыямі, хутка прайшло ўсе папалудне.

У арганізацыйным жыцьці беларусы ў Ля Крэзо твораць быццам адну вялікую і моцную салідарную сям'ю, гэта аценілі нават францускія работнікі, выбіраючы ў адным з адзьдзелаў вялікае мэталюргічнае фабрыкі Шнайдэра сваім прадстаўніком у Хрысьціянскі Сындыкат беларуса.

**З А К Л І К.**

Загрожаныя сухотамы, мы ніжэйпадпісаныя Кастусь Малышоў і Янка Каламар, ужо ад 1947 г. шукаемо ратунку ў розных нямецкіх санаторыях, цяпер нас перавезьлі ў Ґаўтінґ. Ад часу ліквідацыі IPO палажэньне ў санаторыі шмат пагоршылася і бяз помачы з боку цяжка там жыць. Але мы ня маем ані родных, ані нават прыяцялёў, якія-б нам памаглі перетрываць цяжкія дні хваробы. Дык гэтай дарогай зьвяртаемся да ўсіх сваіх суродзічаў-беларусаў і людзей добрае волі, прыслаць нам хоць невялікую помач грашыма, або найлепей ежай.

**(—) К. Малышоў, Я. Каламар.**

(13 b) Gauting b. Muenchen, Sanatorium Bl. II z. 105. Germany U.S.A. Zone

**ПОШУКІ**

**Бухлоў** Трахім з в. Шарыбаўка, Буда-Кашалеўскага р. Гомельскае воб. шукае брата **Сьцяпана** і братавую **Анастасію,** а так-жа сваіх знаёмых. Пісаць на адрас: 62, Buckigham Str., Surry hills, SYDNEY, Australia.

**Гацкага** Уладзімера з в. Даўгінава шукае згоны сусед і просіць усіх, хто ведае аб ягонай долі адгукнуцца на адрас рэдакцыі.